PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (1945) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 22 ЖНІЎНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Над Нараўкай — там, дзе сіняе неба, чыстая вада і зялёная трава.* **Фота А. Вярбіцкага**

## СЯРОД ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ

### УВОДЗІНЫ

Улады горада Бельска-Падляшскага асабліва прадстаўляць не трэба. Успомнім толькі як свайго часу „этнічна ачысцілася" бельская гарадская ўправа, ад прыбіральшчыцы пачынаючы — уверх. Іншы раз салідарніцкія райцы Бельска ўславіліся адкрытым лістом на адрас некалькіх дзяржаўных установаў пра тое, што чагосьці такога як беларусы ўвогуле няма — гэта наогул зрусіфікаваныя пры цары палякі.

Пра гайнаўскіх уладароў цяпер пісаць нават і нявартa — хапае таго, колькі ўвагі некаторым з іх прысвяцілі не так даўно мясцовыя сродкі масавай інфармацыі.

### ВІЗІТ

Між іншым, каб спаткацца з гэтымі людзьмі, напрыканцы ліпеня завіталі на Беласточчыну міністр прэзідэнта Валэнсы Анджэй Закжэўскі і, па ягонай просьбе, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько. Быў гэта неафіцыйны рабочы візіт, што неаднаразова падкрэсліваў міністр Закжэўскі, свайго роду працяг візіту Валэнсы ў Беларусь. Прадстаўнікі абедзвюх дзяржаў хацелі пабачыць і, па меры магчымасцяў, зразумець праблемы беларускай меншасці на Беласточчыне. У першы дзень госці пабывалі ў Беластоку, дзе сустрэліся з уладамі ваяводства ды з іерархамі Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў, а таксама наведалі Супрасль. На другі дзень падаліся ў Бельск і Гайнаўку, дзе мелі чатыры сустрэчы: па адной з уладамі горада, гміны і раёна ў Бельску і Гайнаўцы ды з настаўнікамі беларускай мовы ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску і з беларускімі дзеячамі ў музеі ў Гайнаўцы.

### БЕЛЬСК

Сустрэча ў гарадской управе Бельска пачалася з прэтэнзій да спадара Сянько за тое, што ўмешваецца ён не ў свае справы (значыць — беларусаў Беласточчыны), за сітуацыю палякаў у Беларусі, урэшце за небеларускасць Беларусі. Бурмістр Казімеж Ляшчынскі прынамсі чвэрць гадзіны расказваў, як тутака добра жывуць палякі з беларусамі, без аніякіх канфліктаў. А потым растлумачыў, чаму яго групоўка, калі пераняла ўладу ў горадзе, звольніла з работы ў Гарадской управе беларусаў — ich tu było wcześniej 90 %, a ja czułem, że muszę to zmienić. Гэта не дыскрымінацыя, дадаў ён, кожная ўлада падбірае сабе супрацоўнікаў, якіх хоча.

Намеснік войта Бельскай гміны, Анджэй Ліпскі з Пасынак — „jedyny Polak we wsi", як сам пра сябе казаў — асprэчваў факт існавання беларусаў у гэтай гміне. „Oni wiedzą, że nie są Polakami, ale czy czują się Białorusinami — wątpię". Супадала гэта з поглядамі войта Юрыя Ігнацюка, nota bene старшыні Саюза ўкраінцаў Падляшша.

— *Панове, я не прыехаў сюды, каб слухаць, хто па-вашаму беларус і як вы між сабой жывяце,* — заўважыў міністр Закжэўскі, — *я хачу пачуць канкрэтныя справы, як, напрыклад, мясцовая ўлада дапамагае беларускай меншасці?*

Намеснік бурмістра, Аляксандр Галэмбецкі сказаў, што гарадская ўправа адводзіць сродкі на беларускую школу „тройку", час ад часу дафінансоўвае беларускія мерапрыемствы. Як гэтая дапамога выглядае на практыцы, растлумачыў старшыня бацькоўскага камітэта „тройкі", Аляксандр Божка, параўноўваючы хаця б пабудовы славутай ужо гімнастычнай залы і новага крыла Пачатковай школы н-р 4 — небеларускай. Дырэктар гэтае ж школы Васіль Ляшчынскі дабавіў, што кожнай беларускай ініцыятыве „ўстаўляюць палкі ў колы". У горадзе няма ніводнай вуліцы, якая б мела беларускі акцэнт. Як цяжка было прысвоіць імя Скарыны адной з ускраінных вуліц, а як потым „спантанна" ўспыхнуў пратэст яе жыхароў, маўляў, такой назвы сабе яны не жадаюць. Вельмі важкі быў тут аргумент, колькі гэта каштуе, колькі каштавалі перайменаванні вуліц на Пілсудскага, Яна Паўла II, 11 Лістапада і таму падобнае.

Дыскусія ў гарадской управе зацягнулася звыш планаў і магла б працягвацца яшчэ доўга, каб гасцей не чакалі ў іншых месцах. Вынікі гэтай сустрэчы падвёў міністр Закжэўскі, просячы прабачэння ў беларускага пасла за бурмістраў, за іхнюю яўную і скрытую варожасць да беларушчыны.

Намнога больш дзелавым было спатканне з настаўнікамі беларускай мовы бельскіх школ. Гаворка ішла пра неабходнасць рэформы беларускага школьніцтва — не толькі ў галіне мовы, але і гісторыі, геаграфіі, музыкі ці пластыкі, — якая дзесьці год таму запынілася ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі. Спадар Закжэўскі абяцаў пагаварыць у гэтай справе з міністрам нацыянальнай адукацыі Здабыславам Флісоўскім. У сваю чаргу, гаварыў ён, так як „Wspólnota Polska" дапамагае палякам на ўсходзе, так і адпаведныя ведамствы Рэспублікі Беларусь павінны дапамагчы беларускаму школьніцтву на Беласточчыне. Пасол Сянько заявіў, што гэта маральны абавязак улад Беларусі і таксама абяцаў закрануць гэтую справу ў Менску.

☞ *Працяг на стар. 2*

## КЛУБ У СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

Пра свята ў Старым Беразове — адкрыццё вясковага клуба — загадзя інфармаваў нашых чытачоў Грыша Мароз („Вясковае свята", „Ніва", н-р 30). Аднак, калі мне давялося ехаць праз гэтае сяло тыдняў два да планаванай даты, засумняваўся я ў яе рэальнасць. Што праўда, на будынку і вакол яго завіхаліся людзі, але сам аб'ект выглядаў не надта гатовы. Аказалася, што я ўсё яшчэ ў такіх выпадках карыстаюся сацыялістычнымі меркамі, калі заўсёды чагосьці не хапала, а то цэменту, а то ванны, а то цэглы ці бляхі, а выходжваць патрэбныя матэрыялы трэба было доўга і пакутна, добра няраз пры гэтым падмачыўшы гарэлкай. Цяпер шмат будаўнічых фірмаў гатовы цябе задарма напаіць, абы ты толькі падаваў надзеі, што можаш стаць іхнім кліентам.

Будаваць сёння можна хутка і добра, абы грошы. Вось толькі з імі, бляха, часамі бывае клопат.

Але Старое Беразова ў адзін рад з беднымі, апусцелымі вёскамі „Усходняй сцяны" паставіць аніяк нельга. Тут няма праблемы аблогаў, няма клопату з наследнікамі, гатовымі пераняць гаспадарку. Дамы ў вёсцы — большасцю мураваныя, а калі драўляныя, дык ашаляваныя, памаляваныя, абгароджаныя каляровым плотам. Аднаго хіба толькі клуба не хапала жыхарам гэтай вялікай і багатай вёскі.

Пабудову закончылі, так як планавалі, да суботы 31 ліпеня. У гэты дзень клуб здалі ў карыстанне. А якое адкрыццё наладзілі! Вартае будынка. А трэба адзначыць, што будынак атрымаўся сапраўды прыгожы, з вялікай святліцай і сцэнай, на якой не толькі спевакі, але і танцавальны калектыў выступіць можа. Кухня, туалеты і прасторныя залы дазволяць у будучыні арганізаваць тут любое вясковае свята ці сямейную ўрачыстасць. Апрача таго, побач клуба, але ў адным будынку — гараж для пажарнай машыны (пакуль што пусты). Калі новабярозаўскі бацюшка Яўген Здраеўскі ўзяўся высвячаць аб'ект, спатрэбілася яму сама менш дзесяць хвілін, каб абысці ўсе памяшканні. „Я думаю, што такога клуба не пасаромеўся б нават і Беласток, не то што суседнія мясцовасці" — падкрэсліваў Грыша Мароз — радны Гмінnай рады ў Гайнаўцы.

На ўрачыстае адкрыццё прыехала шмат гасцей, на чале з войтам Вольгай Рыгаровіч. Былі радныя і працаўнікі Гміннай управы, былі прадстаўнікі Пажарнай стражы з Гайнаўкі, якая неаднаразова дапамагала транспартам, ну і зразумела, жыхары Старога Беразова. Былі — як заўсёды ў такі момант — урачыстыя прамовы, кветкі і перарэзванне стужкі. Пералічваліся таксама асобы, найбольш заслужаныя для пабудовы клуба. Я нават не ў змозе прывесці прозвішчы ўсіх заслужаных (можа зробіць гэта спадар Мароз — ён чалавек, што і казаць, зарыентаваны), бо ў сапраўднасці трэба аддаць належнае ўсім вяскоўцам, якія не шкадавалі ні сродкаў, ні сіл, каб пачатую справу давесці да канца. А трэба сказаць, што большая частка працы была выканана грамадскім пачынам.

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

**Radio „Maryja” w Białymstoku**

*Radio „Maryja” jest rozgłośnią społeczną działającą w Toruniu od 8 grudnia 1991. Obecnie przy pomocy trzydziestu trzech stacji przekaźnikowych dociera do ponad połowy kraju. Od kilku miesięcy jest również obecne w Białymstoku.*

*(Gazeta Współczesna, nr 149)*

**Усе іншыя недзяржаўныя радыёстанцыі замоўклі, падпарадкоўваючыся патрабаванням адмысловай камісіі па справах радыё і тэлебачання, створанай супольна Сеймам, Сенатам і Панам Прэзідэнтам. Калі б не замоўклі, не мелі б аніякіх шанцаў атрымаць ліцэнзію на легальнае вяшчанне. Як бачым, гэтыя патрабаванні не датычаць касцельных радыёстанцый. Як заўсёды, перад законам усе роўныя. Але сярод роўных ёсць раўнейшыя. Nihil novi sub sole.**

* * *

*Bilans zajść, do jakich doszło 6 bm. na tzw. małej scenie XIV Festiwalu Muzyki Rockowej Jarocin' 93, to ok. 30 rannych i poturbowanych oraz straty materialne w postaci zniszczonego sprzętu nagłaśniającego sięgającego kwoty ok. 500 mln zł. (...) Doszło do trwającej przeszło godzinę regularnej bitwy policjantów i ochroniarzy z młodzieżą. W ruch poszły kamienie i drewniane belki wyrwane z parkowych ławek. Policji udało się rozproszyć tłum i przywrócić spokój. Nikt z uczestników zajść nie został zatrzymany.*

*(PAP)*

**Ну і вось. А казалі, што сёлетняе „Басовішча” — гэта дужа страшная імпрэза. Ніхто не біўся, ні з сабою, ні з паліцыяй. Ды ўсё-такі страты на „Басовішчы” былі, амаль такія самыя, як у Яроціне: разбітая і знішчаная басавішчанская *сырэнка* была вартая 300 мільёнаў (паводле ацэнкі гісторыкаў мастацтва са Швецыі).**

* * *

*W symbolice polskiej kobieta gra rolę absolutnie podstawową. Kobietą jest Ojczyzna, Niepodległość i Wolność. Matka Boska jest kobietą i widnieje w klapie prezydenta. Ale zarazem w hierarchii wartości innych kobieta jest wyrzucana poza ich obręb. Widać to w parlamencie. Jeśli dyskutuje się teraz o aborcji, to w gruncie rzeczy mówi się o chrześcijaństwie, a nie o kobietach.*

*(Polityka, nr 31)*

**Бо ў парламенце пра жанчын гаворыцца ў перапынках паміж пасяджэннямі.**

* * *

*Świat jest okrutny i głupi — tak najkrócej można streścić diagnozę postawioną rzeczywistości polskiej i globalnej przez anarchicznych prześmiewców z „Big Cyca”. (...) „Big Cyc” w piosence „Polska rodzina” zamieszcza wątek kościelny: „Tata chodzi do kościoła / ale to mu nie przeszkadza / raz na tydzień rzucić nożem / w kierunku sąsiada”. Paweł Kukiz natomiast przedstawia sprawę w formie osobliwego dialogu żony z mężem. Zaczyna ona: „Zmyj podłogę, wyrzuć śmieci / potem idź, wyprowadź psa / umiesz robić tylko dzieci / Na chuj za ciebie wychodziłam”. On na to: „Ty kurwo, odpierdol się / idź w pizdu, jebaj się, oddup się”. Znów ona: „Co ty chuju dziś zrobiłeś? / Ujebałeś znowu się / śmieci jeszcze nie wyrzuciłeś / kurwa, jak mi z tobą źle (...) Pijesz ciągle, skurwysynu / Nic do domu nie przynosisz pieniędzy / Cały dom już kurwa nie wie, co się dzieje / Żyję z tobą kurwa w nędzy”. On na koniec: „Ty, kurwo, odpierdol się / Za swoje piję ja / ile chcę”. Żeby nie było wątpliwości, piosenka nosi tytuł „Rodzina słowem silna”.*

*(Polityka, nr 32)*

**Што тут параўноўваць польскую рок-сцэну з беларускай?! На сёлетнім „Басовішчы” вакаліст групы „Швэё” з Гайнаўкі цнатліва піскаў са сцэны: „Ідзіце на хуй!”. Магчыма, на „Басовішчы” праз год выйдзем з правінцыяльнай глухаманіі і з гарадоцкай сцэны пасыплюцца сакавітыя „ёбы”, якія ўрэшце глыбінна адлюструюць усю нашу беластоцкую рэальнасць.**

* * *

*Dziś widzimy, jak bardzo myliliśmy się. Nasi przewodnicy i my sami... Dalej, jak niegdyś, bijemy dzieci, oddajemy się pijaństwu, normą powszechną staje się krętactwo, protekcja, korupcja i zwykłe oszustwo — a pokazujemy światu sceny zbiorowe z życia umęczonych „aniołów”, potulnych pasterzy świętej sprawy, te wszystkie świąteczno-niedzielne bohomazy z „zajączkami” uniesionymi w górę w geście nadziei na świetlaną przyszłość.*

*Przyznajmy się do tego , że jako zbiorowość, społeczeństwo, naród jesteśmy, jacy jesteśmy, to może wreszcie ktoś nas zrozumie... Że jesteśmy brudni, okrutni i źli, a do tego tak konserwatywnie przywiązani do wydumanych i nadętych imponderabiliów i symboli...*

*(Gazeta Wyborcza, nr 186)*

* * *

*Jeszcze smak lodów cynamonowych mam w ustach, a aromat gorącej szarlotki w nozdrzach, gdy siadam, by spisać dla Państwa wrażenia z kolejnej odwiedzonej stołecznej restauracji. (...)*

*Żabie udka (89.000 zł.) delikatnie panierowane, przyrumienione na chrupko, podane są z cytryną i (na osobnym talerzyku) świetną sałatką mieszaną, czyli kruchą sałatą, ogórkiem, papryką z winegretem. (...)*

*Nie mniej radości i nadzwyczajnych wrażeń dała banalna zdałoby się kaszanka ze złotą renetą (29.000 zł.) (...)*

*Aby jeszcze bardziej pobudzić organizm do czynu, poprosiliśmy o śledzia (39.000 zł.) Był doskonały. (...)*

*Najdroższe drugie danie to zamówiona przez nas kaczka luzowana (119.000 zł.) i polędwica inaczej (też 119.000 zł.)*

*Lody sorbetowe (39.000 zł.) bardzo dobre... (...)*

*(Polityka, nr 32)*

**Так у Варшаве. А ў Беластоку — ніхто нас у рэстараны не просіць, таму мы і пракаментуем гэты кулінарны *opus* словамі песні** Pawła Kukiza **з гурту** „Piersi” **(у той жа „Палітыцы”):** „Leżę, leżę / uwaliłem się jak zwierzę / wódką czystą (...) / Rzygam jajkiem w majonezie / i kiełbasą (...) / A mówili mi przyjaciele / nie mieszaj ogórków z dżemem / musztardy z kisielem i śliwek z likierem / żołądek to nie San Francisko”.

**Дык вось — смачна есці, і да наступнай пятніцы!**




Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі паведаміў, што **Барыс Ельцын** наведае Польшчу ў трэцяй дэкадзе жніўня г.г.

**Закончылася рэгістрацыя спіскаў кандыдатаў у Сейм.** Трыццаць чатыры выбарчыя камітэты на 836 акруговых спісках зарэгістравалі 8610 кандыдатаў у паслы. За адно пасольскае крэсла змагацца будзе звыш дваццаці кандыдатаў.

**Прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка** сустрэлася з прадстаўнікамі **Польскай экуменічнай рады**, у састаў якой уваходзіць і **Польская аўтакефальная праваслаўная царква**. Спадарыня прэм'ер запэўніла прадстаўнікоў Рады, што правы, гарантаваныя Рымска-каталіцкаму касцёлу падпісаным нядаўна Польшчай і Ватыканам канкардатам, будуць прыслугоўваць усім афіцыйна зарэгістраваным касцёлам у Польшчы. Старшыня ПЭР біскуп **Ян Шарэк** выказаў задавальненне, што юрыдычныя вырашэнні, запісаныя ў канкардаце, будуць абавязваць таксама сем касцёлаў, згуртаваных у ПЭР.

**На ўсходняй граніцы** дзейнічаюць арганізацыі, якія займаюцца нелегальнай перапраўкай людзей у Польшчу, галоўным чынам жыхароў Афрыкі і Азіі. З дадзеных Гранічнай стражы вынікае, што кошт перапраўкі вагаецца, у залежнасці ад спосабу транспарту, ад 500 да 2000 долараў. З пачатку гэтага года польскія пагранічнікі адправілі назад звыш 30 тысяч чалавек, найчасцей з прычыны фальшывых запрашэнняў.

**Брэсцкія пагранічныя часці** затрымалі ў пачатку жніўня 77 чалавек, якія намагаліся нелегальна перасячы польска-беларускую мяжу. Група з 38 чалавек, якая ў панядзелак 9 жніўня хацела прабіцца ў Польшчу, была спынена без асаблівых цяжкасцей, дзякуючы дапамозе супрацоўнікаў Белавежскага запаведніка. Іншую групу (з 39 чалавек) – тэхнічна лепш аснашчану - удалося затрымаць у нядзелю (8 жніўня) раніцай, пасля начной пагоні. У ліку затрыманых былі 41 пакістанец, 21 турак, 10 афганцаў і 5 індусаў.

**У Баранавічах** адбылася ўрачыстасць, на якой быў перададзены дар польскіх чыгуначнікаў — кніжкі для новай бібліятэкі Грамадскага таварыства „Klub Polski”. У 1992 годзе беларускія чыгуначнікі перадалі палякам у Баранавічах будынак, у якім быў створаны **Польскі дом**. На заклік генеральнага дырэктара ПКП адгукнуліся чыгуначныя бібліятэкі ў Польшчы і скамплектавалі калекцыю з 22200 тамоў.

**Да 1996 года адбудаваны будзе Аўгустоўскі канал** на беларускім баку. За гэты час прыдзецца адрэстаўрыраваць 18 км вадзянога шляху. Нягледзячы на цяжкую бюджэтную сітуацыю ўлады Гродзеншчыны прызначылі ў гэтым годзе на рэканструкцыю канала 47 мільёнаў рублёў.

**Загінуўшы свет** — гэта назва выставы ў Музеі войска ў Беластоку, адкрытай да 50-годдзя выбуху паўстання ў беластоцкім гета. У Музеі экспануюцца здымкі з архіва варшаўскай дакументальнай кінастудыі, якія прадстаўляюць пакутніцтва і барацьбу польскіх яўрэяў у час II сусветнай вайны.

**Буклет з картай Семяноўскага вадасховішча і наваколля выдаў Аляксандр Кардаш з Бандароў. Карту можна купіць у Беластоку і Бандарах.**

**Раённая пракуратура ў Беластоку** накіравала ў Раённы суд у Бельску-Падляшскім абвінаваўчы акт супраць чатыром членам Управы горада ў Гайнаўцы, якім ставіцца закід захопу на шкоду гміны 15 тысяч шведскіх крон (40 млн. зл.). Дэлегацыя гміны Гайнаўка пабывала ў камандзіроўцы ў Швецыі і пасля вяртання прад'явіла фальшывыя рахункі з неіснуючай гасцініцы. Сярод абвінавачаных апынуўся **Мечыслаў Г.** — былы бурмістр Гайнаўкі.

**У Гарадку адбыўся фэстын БГКТ.** У тамашнім Барыку выступілі калектывы з Гродна, Ліды і Беласточчыны.




- КАБ — новая масавая беларуская арганізацыя.
- Зарабляць грошы едучь з Амерыкі ў Беларусь.
- Наша вёска і Еўропа.
- Кандыдаты ў Сейм ад Беларускага саюза.

# СЯРОД ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ

*Працяг са стар. 1*

**ГАЙНАЎКА**

На сустрэчу ў гарадскую ўправу былі запрошаны войты гмін Гайнаўскага раёна, у якіх пражывае беларускае насельніцтва. І што тут выявілася? Ніякіх праблем няма, адзінае, што хвалюе войтаў — гэта кантрольна-прапускныя пункты. Кожная гміна хоча мець свой пераход праз мяжу, гэта дапаможа ў вырашэнні клопатаў мясцовых жыхароў. На пытанне аднаго з журналістаў пра двухмоўныя надпісы і дарожныя ўказальнікі войты Чаромхаўскай і Дубіцкай гмін Міхал Врублеўскі і Анатоль Паўлоўскі адказалі здзіўленнем — а навошта нам яны? Мы простыя людзі, нам абы бульбу прадаць, навошта чаўпці невядома што.

Апошнім пунктам пабыўкі міністра Закжэўскага і пасла Сянько на Беласточчыне была сустрэча з беларускімі дзеячамі ў гайнаўскім музеі. Праходзіла яна ў зале ўпрыгожанай пад... навагодні баль — са столі звісалі каляровыя паперыны, а на сцяне вісеў гадзіннік са стрэлкамі „без пяці поўнач”. Ці гэта забыліся зняць дэкарацыю ад зімы, ці ўжо рыхтуюцца да карнавалу — невядома. Сустрэча аднак, хаця праходзіла ў святочных абставінах, не была бесклапотнай, святочна-навагодняй.

Старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея Канстанцін Майсеня расказваў прысутным пра пачаткі інвестыцыі, пра ход пабудовы, пра тое, чаго не хапае. Калі пайшоў пералік, колькі што займае квадратных метраў, а што кубічных, колькі бетону ўжо ўлілі сюды, а колькі яшчэ трэба, колькі жвіру, мармуру, акон і дзвярэй, міністр Закжэўскі заўважыў, што ён не з'яўляецца спецыялістам па будаўніцтве і нічога з гэтага не разумее.

У далейшым чуліся наракання і жаль, што мясцовая ўлада не фінансуе беларускія імпрэзы. Дырэктар аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку Эўгеніюш Біль-Ярузельскі паясніў, што нацыянальнымі меншасцямі ў Польшчы займаецца Міністэрства культуры і мастацтва, яно іх і фінансуе — мы тут чыстыя.

У сустрэчы слова ўзяў і старшыня БГКТ Янка Сычэўскі, які пакарыстаўся нагодай, каб даказаць як ягоная арганізацыя папулярызуе беларускую культуру, а іншыя „беларускія групоўкі” толькі ім перашкаджаюць. Пры нагодзе памянуў і „Ніву”, якую, паводле слоў спадара Сычэўскага: „нам забралі, а псеўдажурналісты, што тамака сядзяць не займаюцца тым, чым трэба, не інфармуюць пра дасягненні Беларускага таварыства, толькі здзекліва каментуюць кожны наш крок”.

А здавалася, што ўжо беларусы між сабой дамовіліся, нават да выбараў ідуць разам, у адным камітэце, а тут на табе. Правакацыя, ці проста старшыня паблытаў карткі з прамовамі?

**ВЫВАДЫ**

„Што можам, то паможам, але, па сутнасці, можам не шмат... А калі мясцовыя ўлады вам не спрыяюць, дык жа нават тыя назначаныя — войты, бурмістры і г.д. — з'яўляюцца прадаўжэннем уладаў з выбару. Набліжаюцца выбары — абярыце такіх райцаў, такіх паслоў, каб вам спрыялі!”

**ПРЫСУТНЫ**




**KANCELARIA PREZYDENTA RZECZPOSPOLITEJ POLSKIEJ**

**SZANOWNY PANIE REDAKTORZE,**

Proszę przyjąć wyrazy podziękowania za gościnność i serdeczność towarzyszące mojej wizycie w Białymstoku. Nasze spotkanie i dyskusja z przedstawicielami środowiska białoruskiego na Białostocczyźnie pozwoliły mi na bliższe zapoznanie się z jego problematyką. Umożliwiły wymianę zdań na temat spraw, które mają dla niego istotne znaczenie. Spraw budzących często emocje i kontrowersje.

Raz jeszcze dziękując za interesującą rozmowę, mam nadzieję, że to spotkanie nie było spotkaniem ostatnim.

Serdeczny uścisk dłoni łączy

**SEKRETARZ STANU**
**Andrzej Zakrzewski**

## КЛУБ У СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

— *Пачалося ўсё ў 1987 годзе,* — кажа старшыня Грамадскага камітэта пабудовы клуба Мікалай Дзікевіч, — *гаспадары скінуліся па 5 тысяч злотых, а пенсіянеры — хто колькі мог ды за гэтыя грошы купілі матэрыял на фундаменты. Уласцівая будова распачалася ўжо пры сённяшняй пані войт, пасля 90-га года. Наколькі раней улады гміны не праяўлялі ніякага зацікаўлення нашым клубам, бо мелі больш важныя інвестыцыі (часам зусім непрадуманыя, як школа ў Новым Корніне, якая і цяпер пустая), настолькі пані Рыгаровіч дапамагала нам як магла. І словам, і ўчынкам, і грошы патрапіла знайсці.*

— *Нацярпелася я ад вашых прадстаўнікоў у радзе гміны,* — кажа спадарыня Рыгаровіч, — *а то гэта ім на клуб трэба, а то зноў нешта іншае давай. Пра гэтую пабудову яны мне забыць не далі. Памятаю, калі я стала войтам і пабачыла ў Старым Беразове падмуркі, старалася адвесці радных ад намеру працягваць пабудову, але мне гэта не ўдалося. І сёння я вельмі шчаслівая, што так выйшла. Няхай гэты аб'ект добра вам служыць, няхай вас яднае ў адну сям'ю. Трэба, каб тут было як найбольш вяселляў і хрэсьбін , бо вёска прыгожая і маладая, дык не павінна быць з гэтым цяжкасцей.*

Афіцыйнае адкрыццё працягвалася ад гадзіны чацвёртай пасля поўдня да восьмай вечара. Захапілі ўсіх — а зала была набітая народам, ад малых дзетак, да пажылых пенсіянераў — выступленні мастацкіх калектываў: самадзейных спявачак з недалёкага Арэшкава, хору Гайнаўскага дома культуры ды дасканалага інструментальна-песеннага і танцавальнага калектыву „Церніца” з Менска. У міжчасе свае праграмы прадставілі кандыдаты ў Сейм ад Выбарчага камітэта Беларускага саюза і ад Польскай сялянскай партыі (ПСЛ), але гаварылі яны коратка і не папсавалі святочнай атмасферы палітыкай.

Што было пасля, ужо ў неафіцыйнай частцы, я магу толькі здагадвацца па багата застаўленых сталах у суседніх з глядзельнай залай пакоях ды па стараберазоўскіх кабетах, якія шпарка завіхаліся між кухняй і тымі ж пакоямі (не з пустымі рукамі), якім і канцэрт не было як паслухаць. Але так заўсёды ёсць, што нават і ў вялікае свята хтосьці працаваць мусіць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. Я, на жаль, са свае працы ў Старым Беразове не магу быць да канца задаволены. А то з прычыны халернай тэхнікі. Мой фотаапарат папсаваўся падчас урачыстасці. Перапрашаю, што вышэй прыведзеныя словы не магу папоўніць яшчэ і вобразам.

## ТАК НЕ МУСІЦЬ ДАЛЕЙ БЫЦЬ

4 жніўня ў Бельску-Падляшскім Саюз левых дэмакратаў распачаў выбарчую кампанію. На сходзе ў Бельскім доме культуры жыхары горада маглі пазнаёміцца з кандыдатамі ад СЛД ў Сейм і Сенат. Мерапрыемства нічым не вылучалася б ад іншых гэтага кшталту імпрэз, калі б не канцэрт беларускага фальклорнага калектыву „Васілёчкі”, які рабіў прапаганду для СЛД. Такое спалучэнне беларускай забавы і робленай СЛД палітыкі для людзей, не надта зарыентаваных у гэтай гульні, было мала прыемнай сустрэчай з нашай культурай.

На працягу паўвека пасляваеннай гісторыі ўрадавыя колы з ПАРП, уздымаючы пытанне беларускай меншасці, заўсёды спалучалі беларусаў з „левымі поглядамі”. Звычайны грамадзянін беларускага паходжання, які дзесяцігоддзямі слухаў, што ён „прыхільнік левых”, далей працягвае захоўваць такое перакананне. Замацавалі гэты стэрэатып і падзеі апошніх гадоў, а ў прынцыпе ўчыніла гэта боязь беларусаў перад зменай кіруючых элітаў з „левай” ПАРП на „салідарнікаў”. Аднак, што даказалі апошнія чатыры гады „салідарніцкіх” праўленняў, боязь беларусаў, перш за ўсё за ўласнае жыццё, не апраўдалася. Парпаўская ціхая плётка аб планах тадышняй польскай апазіцыі крывава помсціць беларусам лопла як бурбалка. Але гэты факт усведамілі сабе нямногія, бо незразумелая боязь яшчэ не знікла, перашкаджае самастойнаму мысленню і дзейнасці, ды далей падтрымоўвае „левыя” схільнасці, мабыць, у большасці беларусаў. СЛД выкарыстоўвае гэта дасканала падчас выбараў.

Удзел „Васілёчкаў” у выбарчай кампаніі СЛД можна зразумець толькі ў адным выпадку: калектыву за канцэрт заплацілі, значыць, быў зроблены выгадны абодвум бакам інтарэс. Але мне здаецца, што гэта няпэўны інтарэс, калі ўлічыць той факт, што СЛД сапернічае з Выбарчым камітэтам Управы Беларускага саюза ў РП, які стварылі ўсе беларускія арганізацыі (урэшце ідзем супольна). Нягледзячы на грошы, для мяне гэта свайго роду дыверсія, бо: 1/ „Васілёчкі” — калектыў фінансаваны галоўным чынам БГКТ, 2/ калі вялася дыскусія над гарадскім бюджэтам, дык толькі ніжэйпадпісаны публічна дамагаўся фінансаваць беларускія калектывы („Васілёчкам” адвялі тады 20 мільёнаў зл.), а „левыя” ад Сацыял-дэмакратыі РП нават не заўважылі гэтай праблемы.

Беларускія справы заўсёды інструментальна выкарыстоўваліся польскімі пасляваеннымі „левымі групоўкамі”. Дагэтуль, хочаш не хочаш, мы мусілі або падтакваць, або маўчаць, але — **так не мусіць далей быць**. Час ужо пачаць трохі думаць і прынамсі пачаць канкрэтную дыскусію з прадстаўнікамі польскіх левых колаў. Нельга нам дарма абы-каму аддавацца, бо сустрэне нас тое, што здарылася ўжо ў некаторых нашых гмінах, напрыклад, у Міхалове, дзе за дзесяцігоддзі памылковай палітыкі тадышніх польскіх улад сельская гаспадарка заняпала, састарэлыя жыхары жывуць за жабрацкую пенсію, а моладзь выехала ў гарады і цяпер не можа там знайсці працы. **Так не мусіць далей быць.**

**СЛАВАМІР ІВАНЮК**
**дэлегат XII З'езда БГКТ**

## ЛІСТ З-НАД МОРА

Маем больш-менш палавіну лета і багацце допісаў карэспандэнтаў у „Ніву”. Урэшце Грыша Мароз распісаўся і шкада, што ні словам не ўспамінае суседнюю вёску Махнатае. Адзін радны расказаў мне, што вёскі Старое Беразова і Махнатае плацяць найбольшыя падаткі ва ўсёй Гайнаўскай гміне. Гэта абазначае, што абедзве вёскі — найбагацейшыя. І фактычна, у іх бурліць жыццё, зямля не ляжыць аблогам. Проста, добрая зямля і добрыя гаспадары.

Думаю, што гэтым разам нашы кандыдаты ў Сейм РП выйграюць з Цімашэвічам, хаця ў яго такое мілагучнае прозвішча. Цешуся, што нашыя беларускія кандыдаты ідуць да выбараў разам, а тое, што яны праваслаўныя, гэта ўсім вядома. Пішыце больш пра кандыдатаў, пра праграму Выбарчага камітэта праваслаўных. Людзі павінны ведаць, чаму ім трэба аддаць свой голас на кандыдатаў ВКП. Яўген Мірановіч піша („Ніва”, н-р 31), што для ўвядзення кандыдата ў Сейм трэба многа грошай. Пэўна, што трэба, але нашыя беларускія капіталісты, пра якіх так многа пісаў А. Барскі, не збяднелі за час ад апошніх выбараў і маюць нагоду адплаціцца беларускім арганізацыям, якія дапамаглі ім увайсці на беларускі рынак, і, такім чынам, успамагчы выбарчую кампанію ВКП.

Звяз беларускай моладзі запрашае на рэйд „Сьцяна'93”. Дзякую за запрашэнне і пры нагодзе прапаную, каб моладзь у час вандроўкі па вёсках разносіла інфармацыі пра нашых кандыдатаў у Сейм.

Калі сядаў я за стол, дык думаў напісаць пра навіны з-над мора, а атрымалася зусім іншае. Ага, у Гданьску афіцыйна адкрылі беларускае консульства, але ніхто не падумаў паведаміць аб гэтым гданьскіх беларусаў. Шкада! Аб тым, што дзееца над морам і ў Сопаце напішу ў наступнай карэспандэнцыі.

**М. КУПТЭЛЬ**
**Сопат**

## ПРАВАСЛАЎНЫ ЛЕТНІК У ДУБІЧАХ-ЦАРКОЎНЫХ

У асяродку адпачынку „Бахматы”, што каля Дубіч-Царкоўных у днях 30 ліпеня — 12 жніўня гэтага года прайшоў беларускі праваслаўны летнік. Арганізатарам летніка было Праваслаўнае брацтва. Адпачывала на ім 30 дзяцей — палова з іх была з Беласточчыны, а палова прыехала з Беларусі.

Ідэя такога летніка, сказаў адзін з апекуноў дзяцей Дарко Фіёнік, узнікла яшчэ зімою, калі сустрэўся я са старшынёю Брацтва трох Мучанікаў Віленскіх у Менску. Гаварылі мы тады пра ўсялякія справы, між іншым пра абмен дзеткамі. Дайшлі мы тады да вываду, што арганізацыя ізаляваных летнікаў — г. зн. яны пасылаюць сваіх дзяцей нам, а мы ім — не дае такога выніку, як у выпадку мяшанага летніка. І такім вось чынам 30 дзетак з Беларусі і Беласточчыны адпачывае разам у адным месцы. Яны разам гуляюць, ходзяць у царкву, моляцца, прызвычайваюцца адзін да аднаго. Тыя бар'еры, якія можна было заўважыць на пачатку паміж нашымі мясцовымі дзеткамі, а дзеткамі з Беларусі, даволі хутка пачалі крышыцца.

Летнік, сказаў яшчэ Дарко Фіёнік, перад усім праваслаўны. Задумалі мы, каб беларускія праваслаўныя дзеці з Беларусі і Польшчы адчулі сябе як адна сям'я, каб зніклі стэрэатыпы накшталт „ты рускі, я паляк” (у пачатку летніка стэрэатып такі можна было заўважыць). Хочам мы, каб удзельнікі летніка адчулі, што яны — беларускія дзеці, хаця і жывуць у розных краінах, але яднае іх адна Царква, прыналежнасць да аднаго народа, адна мова. З моваю, дарэчы, па-рознаму бывае — дзеці з Беларусі, хаця і выводзяцца са свядомых беларускіх сем'яў, гавораць па-руску, у той жа час, калі нашы — па-польску. Аднак жа мы тлумачым ім, што тою сярэдзінай, якая нас яднае, з'яўляецца якраз беларуская мова. „Гаварыце з сабою па-беларуску, — кажам ім, — то напэўна дасканала зразумееце адзін аднаго”. Каб неяк ім дапамагчы ва ўзаемапазнанні, выдалі мы нават спецыяльную газетку, якая якраз і завецца „Летнік”.

Апрача адпачынку і пацехаў дзеці на летніку ў Дубічах-Царкоўных вучыліся ў час заняткаў асноў праваслаўнай веры, малітваў, хлопцы прыслугоўвалі ў царкве, адбываліся заняткі па спевах.

Адно з чым не пашанцавала ўдзельнікам летніка гэта тое, што нельга было купацца. Вада ў заліве, паясніў войт гміны Анатоль Паўлоўскі, хімічна чыстая. Аднак здараецца, што час ад часу пачынае яна „квітнець” і купацца тады не рэкамендуецца, бо можна прыдбаць сабе нейкую хваробу скуры. Лодкай плаваць, ці карыстацца нейкай іншай формай адпачынку, можна.

**(ам)**

## ТАЯМНІЦА БЕЛАВЕЖЫ

**Частка I**

### Загінуўшая вёска

Пра пачатак Белавежы гісторыкі найчасцей кажуць, што скрываецца ён у цемры мінулага. І так яно сапраўды ёсць. Нямнога ведаем аб узнікненні і першых стагоддзях мясцовасці.

Паводле меркаванняў аўтараў буйнейшых кніжак аб Белавежскай пушчы, Белавежа ўзнікла недзе ў пачатку XV стагоддзя, над ракой Лутоўняй. Урочышча гэта называецца цяпер „Старая Белавежа”. Тут менавіта, па загаду караля Ягайлы, збудавалі паляўнічы замак. На жаль, пра гэту пабудову нічога не ведаем, таксама як нічога не ведаем пра чарговы замак, які меў пабудаваць Жыгімонт I. Ад абодвух замкаў не засталося следу. Да нашых дзён захаваўся толькі след па замку (насып) караля Баторыя, які стаяў ва ўрочышчы, якое сёння называюць „Замчыска”. „Замчыска” ад „Старой Белавежы” знаходзіцца ў 2 кіламетрах.

Памерлы нядаўна гісторык Ежы Вісьнеўскі меркаваў, што перанясенне каралеўскага паляўнічага двара на новае месца, значыць там, дзе сёння маем Белавежскую паляну, наступіла каля 1594 г. Першая звестка пра Белавежу ў новым месцараспалажэнні датуецца 1597 годам і датычыць капання става. Калі пачалі будаваць першыя будынкі — нам нічога не вядома.

Крыху важных інфармацый змяшчае „Ардынацыя пушчы” ад 1639 г. Яна называе каралеўскі двор, што ўзвышаецца над ставам. Непадалёку, над ракой Нараўкай, знаходзіўся млын, які арандаваў Іван Грыцэвіч, супольна з млынарамі, што „zdawna maią pode dworem morgów 4, które... trzymaią wolne od płaty”.

Па-суседску двара знаходзіліся іншыя, бліжэй неакрэсленыя будынкі. Дагледаць двор меў абавязак ляснічы, разам з прызначанай яму вартай, якую састаўлялі чатыры асочнікі.

Інвентарны спісак ад 1696 г. упершыню згадвае аб Белавежы, як аб 25-марговым фальварку (папярэдні спісак, ад 1670 г., аб ім яшчэ не ўспамінае). З гэтых 25 моргаў — 13 абраблялі млынары, а 5 — рыбакі.

Двор, фальварак і іхняя забудова прычыніліся да ўзнікнення і паступовага пашырэння г. зв. Белавежскай паляны. У 1705 г. у каралеўскім двары гасцюе Аўгуст II Моцны. З таго моманту пра сам двор не маем ужо ніякіх вестак. Магчыма, ён быў знішчаны падчас Паўночнай вайны (1700-1721). Інвентарны спісак Белавежскага лясніцтва ад 1730 г. называе вёску Белавежа, але нічога больш пра яе не гаворыць.

У палове XVIII стагоддзя Аўгуст III Сас ставіць на месцы даўняга двара новы каралеўскі палац. Паміж 1784 і 1791 гадамі вялікі літоўскі падскарбі Станіслаў Панятоўскі дабудоўвае два флігелі.

Пісьмовыя крыніцы падаюць, што ў 1775 г. Белавежа налічвала 20 дымаў. У вёсцы жыў падлоўчы, які арганізаваў паляванні і непасрэдна наглядаў за пушчай.

У другой палове XVIII стагоддзя на Белавежскай паляне, якая пастаянна пашыраецца, узнікаюць вёскі Стачок, Застава, Падаляны, а ў другой палове XIX стагоддзя — Крыжэ. Зараз яны ў складзе Белавежы. І калі высвятленне іх размяшчэння не стварае ніякіх праблем — вёскі знаходзяцца ў тым самым месцы, дзе і ўзніклі, то з вёскай Белавежа ёсць ужо клопаты. Меркаванні, што яна знаходзілася недзе непадалёку двара, нічым не абаснаваны. Няма на гэта ніякіх доказаў, слядоў. І, наогул, што магло стацца з гэтай вёскай, што яна раптам перастала існаваць?

Не тлумачыць гэтага нават першая карта Белавежскай паляны, якую саставіў у 1784 г. землямер Палхоўскі. Ён зазначыў на ёй двор, першыя будынкі вёскі Стачок і вёску Заставу (вёска Падаляны яшчэ не існавала). Белавежы — ані следу! А яшчэ ж дзесяць гадоў раней крыніцы ўспамінаюць яе. Пералічваюць нават 20 дымаў. Магчыма, што Белавежай у той час палічылі забудову Заставы і Стачка. Дык такое меркаванне ўсё ж не дае адказу на пытанне, дзе знаходзілася і што сталася з вёскай Белавежа. А мо Белавежай лічыўся сам двор і яго забудова? Такое тлумачэнне можна было б і прыняць, каб не адна легенда, якую захоўваюць у сваёй памяці тутэйшыя старажылы. Яна тое ж тлумачэнне крыху ўскладняе.

*(працяг у наступным нумары)*

**ПЁТР БАЙКО**

# ПРЫЗАБЫТЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

### ПРАЦЭС

Пракурор абвінавачваў канспіратараў у дзейнасці, мэтай якой было адарванне ад Польшчы часткі яе тэрыторыі шляхам збройнага паўстання. Галоўным тэзісам абвінавачага акта, які налічваў 67 старонак машынапісу, было сцвярджэнне, што партызаны Скамароха былі членамі *„szeroko rozpowszechnionej organizacji białoruskiej, której celem było oderwanie od Polski części jej terytorium państwowego w celu utworzenia z niego Białoruskiej Niezależnej Republiki Ludowej."* Далей чытаем: *„Ruch ten, popierany przez Litwę Kowieńską i Niemcy, dążył do utworzenia na Litwie regularnych oddziałów białoruskich, natomiast na terytorium Polski zamieszkałym przez Białorusinów, oddziałów partyzanckich".* У далейшым абвінаваўчы акт прыводзіў падрабязнае апісанне арганізацыі, мэты і спосаб яе дзейнасці. Высвятлялася ў ім таксама, якім чынам паліцыя адшукала яе членаў. Аказваецца, выдатна ў гэтым дапамаглі Эдуард Лянкевіч (паліцэйскі сышчык родам з Саколкі) і жонка Шыманюка — Ліза. Затым суд пачаў слухаць абвінавачаных. Першую дапытвалі Веру Маслоўскую. Журналіст „Dziennika Białostockiego" так характарызаваў яе: *„Szczególną uwagę zwraca główna „bohaterka dnia" Wiera Masłowska. Jest to kobieta młoda — lat 25 — o interesującej powierzchowności. Włosy barwy kasztanowej, przycięte po paziowsku. Cera zdrowa (mimo kilkunastomiesięcznego pobytu w więzieniu śledczym), wejrzenie pogodne, na ustach gra uśmieszek. Wrażenie ogólne sympatyczne".* Маслоўская ў сваёй прамове пацвердзіла, што яна — галоўны арганізатар дзейнасці, мэтай якой было аб'яднанне ўсіх беларускіх земляў у адну рэспубліку. Аднак, паводле яе, не было ў гэтым нічога дрэннага. Проста яна выконвала свой абавязак перад бацькаўшчынай. У далейшым частцы выступлення, абвінавачаная востра супрацьставілася таму, што яе „чыстыя, святыя імкненні" спалучаюць з бандыцкімі выступленнямі. „Пакуль я кіравала арганізацыяй, — гаварыла Маслоўская, — не была пралітая ніводная кропля крыві. Усе злачынствы адбыліся тады, калі мне і маіх супрацоўнікаў арыштавалі, а кіраўніцтва рухам перанялі іншыя людзі са сваімі мэтамі". На працягу першага і другога дня працэсу суд праслухаў усіх абвінавачаных. Большасць складалі сяляне, якія да канца не прызнаваліся да ўдзелу ў дзейнасці „Брацтва". Адзіным доказам іх „злачыннай дзейнасці" была прысутнасць прозвішчаў у спісках, знойдзеных у штабе Скамароха. У сувязі з гэтым, іх тлумачэнні былі прыблізна такія, што нічога яны не ведаюць пра арганізацыю, грошай ад нікога не бралі і не ведаюць адкуль узяліся іх прозвішчы ў спісках.

Былі аднак і іншыя выказванні. Яўгенія Матэйчык, сястра Веры Маслоўскай, паясняла, што яе арыштавалі не з-за працы ў арганізацыі, а з-за навучання без дазволу ўлад у беларускай школе. На яе думку, шмат людзей дзейнічала ў арганізацыі таму, што дзяржаўныя ўлады не дазвалялі развіцця беларускай асветы і культуры. Інакш тлумачыў удзел у канспірацыі Аляксандр Станкевіч (псеўданім „Пугачоў"). Ён, як і сотні тысяч беларусаў, быў у „бежанстве". Пасля падпісання Рыжскага дагавора, да бежанцаў прыехала шмат агітатараў, высланых польскім урадам. Палякі расказвалі пра вялікую дапамогу з боку дзяржавы для гаспадароў, якія захочуць адбудаваць зруйнаваныя гаспадаркі. Многія паслухалі і вярнуліся. Аднак усё, што гаварылі агітатары, аказалася хлуснёй. „Рэпатрыянты, беларусы, — гаварыў Станкевіч, — жылі ў зямлянках, як звяры. Дзеці памiралі з голаду і холаду. У нас памерла 405 чалавек".

Цікава, што ўсе абвінавачаныя на пытанні пракурора ці суддзі, чаму іх паказанні ў час працэсу зусім розныя ад таго, што яны гаварылі падчас следства, адказвалі аднолькава: „Так білі і так мучылі, — гаварыў А. Захожны ў час працэсу, — што гаварыў і падпісаў усё, што хацелі". Шостага дня працэсу голас узяў пракурор Камінскі. У чатырохгадзінны прамове ён даказваў бясспрэчную віну абвінавачаных. Паводле яго, працэс даказаў, што арыштаваныя: *sprzysiężeni w spisku przeciwko Polsce łączyli się z jej największymi wrogami: Moskwą, Niemcami i Litwą(...) Fakt przygotowania powstania zbrojnego został potwierdzony niezbicie, a motywy wysuwane przez oskarżonych jak: obrona interesów narodowych, chęć wyzwolenia ujarzmionego kraju, nie wytrzymały żadnej krytyki. Gdyby bowiem o te cele chodziło, to ruch emancypacyjny winien by się zwrócić tam, gdzie rzeczywiście lud białoruski cierpi srogi ucisk, tj. w bolszewii. Tymczasem umiejscowił się on w kraju największych swobód, w państwie demokratycznym, które dłoń bratnią wyciąga do wszystkich.* У заключэнні пракурор дамагаўся доўгатэрміновых прысудаў для 39 абвінавачаных. Між іншым для В. Маслоўскай, А. Станкевіча, Ш. Якаўлюка і С. Баранава патрабаваў пажыццёвую цяжкую турму. На сёмы дзень (20 мая) выступалі абаронцы. Галоўнымі аргументамі ў іх прамовах было тое, што на пачатку „Брацтва" не намервалася весці вайсковую дзейнасць, а іх мэтай было дабро беларускага народа. Апрача таго, паводле абаронцаў, суд не павінен глядзець на ўсіх абвінавачаных аднолькава, таму што некаторыя з іх наогул не мелі нічога супольнага са злачыннай дзейнасцю арганізацыі.

Прыгавор суда ў „працэсе 45-ці" быў зачытаны 21 мая 1923 г. а восьмай гадзіне вечара.

### АДГАЛОСКІ

„Працэс 45-ці" прыцягваў увагу грамадства не толькі ў Беластоку. Шмат месца адводзіла яму таксама прэса. Няцяжка дадумацца, што каментары былі рознымі. Незалежная беларуская прэса лічыла яго палітычнай помстай пераможцаў над пераможанымі. Паводле „Новага жыцця" дзейнасць „Брацтва Сялян Беларусаў" была выклікана „ненармальным і часта крыўдным для беларусаў стаўленнем польскай адміністрацыі і палітыкі дзяржавы да іх патрэбаў". Паўсюдна прымяняўся аргумент, што такім самым спосабам палякі ваявалі за сваю незалежнасць, а цяпер лічаць гэты метад злачынствам. У рэдакцыйным каментары „Новае жыццё" пісала, што: „Для беларускай ідэі Беласток (працэс у Беластоку — Ю. К.) быў першай Галгофай".

Зусім інакш ставілася да працэсу польская прэса. Для прыкладу „Świat" называў членаў арганізацыі *„bandą opryszków, która napadała na dwory, psuła drogi i wydawała wyroki śmierci."* Адносіны паміж членамі арганізацыі называліся *„zgoła pierwotnymi"*. „Dziennik Białostocki" пасля працэсу не скрываў расчаравання з прычыны *„nieprawdopodobnie łagodnych kar"*. У далейшай частцы каментарыя чытаем, што *„był to gest, na który stać majestat potężnego mocarstwa, które w poczuciu sprawiedliwości może pobłażać błędy obałamuconych".* У канцы таго ж артыкула пішацца: *Po wyjściu z gmachu sądowego uwolnieni padali sobie w objęcia i krzyczeli na głos — Niech żyje Sąd Polski, Niech żyje Polska. To ojcowie nie sądziowie! Daj Bóg nie zgrzeszyć przeciw nim więcej. Z temi słowami i przekonaniem poszli na wieś by sławić dobroć i sprawiedliwość sądu.*

### ЗАКАНЧЭННЕ

Беластоцкі працэс быў першым групавым палітычным працэсам беларусаў у Рэчыпаспалітай. Пасля былі наступныя: „працэс 94" членаў КПЗБ і КЗБМ, „працэс 31" у Берасці, „працэс 133" у Беластоку, „працэс 35" членаў Цэнтральнага камітэта КПЗБ ды шмат іншых. У 1923 годзе паступова спыняецца дзейнасць беларускіх паўстанчых арганізацый у Заходняй Беларусі. Горкую праўду пра гэтыя падзеі прыводзіць народная беларуская песня:

*Ад вякоў мы спалі, но нас разубудзілі.*
*І ў... нам далі і зноў палажылі...*

Невядомы мне аўтар гэтых радкоў. Няцяжка, аднак, дадумацца, што ён меў на ўвазе.

**ЮРЫ КАЛІНА**



# МІКАЛАЙ БУШКО

**Кандыдат у Сейм ад Выбарчага Камітэта Беларускага Саюза**



Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Навасадах каля Гайнаўкі, дзе закончыў пачатковую школу. У далейшым закончыў: Тэхнікум дрэваапрацоўчай прамысловасці ў Гайнаўцы, Галоўную сельскагаспадарчую школу ў Варшаве (інжынер драўнiннай тэхналогіі) і паслядыпломныя курсы ў Педагагічным аддзяленні Варшаўскага універсітэта (кіраванне культурнай дзейнасцю). Прафесійна працуе ўжо 25 гадоў: спачатку ў Гайнаўскім прадпрыемстве драўнiннай прамысловасці і фірме „Płytozbyt" у Семяноўцы, а з 1979 года — ён дырэктар Гайнаўскага дома культуры. Суарганізатар і дзейсны ўдзельнік Беларускага хору Гайнаўскага дома культуры. Шматгадовы ўдзельнік беларускага грамадска-культурнага руху на Беласточчыне. Заснавальнік ідэі і галоўны арганізатар Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Сябра Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Радны Гарадской рады ў Гайнаўцы ад Беларускага выбарчага камітэта. Узнагароджаны, між іншым, медалём Св. Марыі Магдаліны і званнем „Лідэр-92". Жанаты, адзін сын, жыхар Гайнаўкі.

У Сейме будзе змагацца за:

— партнёрства ў кожнай галіне,
— нармальнасць цераз узаемапазнанне,
— разнастайнасць у рэлігійнай і культурнай сферах, але адзінства ў дзейнасці на карысць краіне,
— роўныя правы і абавязкі,
— працу, а не камбінатарства,
— захаванне прыроды, а ў гэтым неабходнасць захавання рэштак Белавежскай пушчы,
— гаспадарчае ажыўленне цераз кантакты з Беларуссю і іншымі краінамі былога Савецкага Саюза, выкарыстанне турыстычных якасцяў і культурнай разнавіднасці рэгіёна,
— стварэнне новых месц працы і аблягчэнне ўмоў жыцця на вёсцы.

На прыкладзе фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы даказаў ён, што вялікія мерапрыемствы можна рабіць у кожнай мясцовасці.

# СЕМІНАР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ У ОЛЬШТЫНЕ

Як я ўжо пісаў ("Ніва", № 24), у чэрвені ў Ольштыне адбыўся семінар нацыянальных меншасцяў. На гэты семінар арганізатары запрасілі прадстаўнікоў усіх нацыянальных меншасцяў, што жывуць у Рэчыпаспалітай, з мэтаю абмеркаваць свае праблемы, а таксама -- расказаць аб сваіх справах, каб палякі лепш азнаёміліся з іх жыццём. На сустрэчу гэтую прыбылі толькі немцы ды беларусы. Прадстаўнікі ўкраінцаў, літоўцаў і цыганоў не прыехалі. Затое былі госці - нямецкі пісьменнік Ральф Гіэрдана (з перакладчыцай Барбарай Барлог), журналіст Тадэвуш Прусінскі з "Газеты выборчай" і Беата Свічкоўская з ольштынскага радыё, а таксама Яланта Казлоўская з Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва.

Сустрэчу адкрыў Вальтар Ангрык - старшыня Згуртавання нямецкай нацыянальнай меншасці рэгіёна Ольштын-Гданьск-Торунь. Выступленне прамоўцы было насычана шматлікімі лічбамі, а таму, думаю, варта даць крыху статыстыкі. У сямі ваяводствах паўночна-ўсходняй Польшчы дзейнічае дваццаць дзевяць зарэгістраваных нямецкіх таварыстваў грамадска-культурнага накірунку. У Ольштынскім ваяводстве іх чатырнаццаць, у Сувальскім - шэсць, у Эльблангскім - чатыры, у Быдгаскім - два, у Гданьскім, Торуньскім, Слупскім - па адным. Усяго яны аб'ядноўваюць дваццаць пяць тысяч чалавек, якія прызнаюць сваю нямецкасць. Альфрэд Чэсля, які таксама ўзяў слова, сказаў, што хацеў бы, каб людзі нямецкага паходжання заўсёды мелі найлепшыя ўзаемаадносіны з польскім насельніцтвам. У прамове нашай паэткі Тамары Болдак-Яноўскай гэтая думка таксама была лейтматыўнай. Характэрна, што яна не абмінала і шмат якія "вострыя вуглы" ў нашых узаемаадносінах, напрыклад -- пра адкрытую каталізацыю ксяндзамі заходніх абшараў Беларусі, пра фашыстоўцаў-юнакоў, якія называюцца "скінамі" (дарэчы, я таксама ўжо пісаў пра іх - "Ніва", № 23), пра, мякка кажучы, незразумелую пазіцыю некаторых польскіх выданняў у гэтым пытанні. Асаблівую ўвагу паэтка надала пытанню Супрасльскага манастыра - для яе зусім незразумела (і гэта цалкам слушна), чаму некаторыя каталіцкія дзеячы хочуць забраць манастыр сабе. Выступіў і я - расказаў удзельнікам семінара і пра жыццё ольштынскіх беларусаў, і пра жыццё беларусаў Беласточчыны. Я падкрэсліў, што ў Гарадку, Гайнаўцы, Белавежы, Бельску беларуская мова жывая -- яна гучыць на вуліцах, у крамах, на аўтобусных прыпынках...

Напрыканцы выступіла Яланта Казлоўская. Яна спынілася на некаторых канфліктных сітуацыях, што яшчэ часам адбываюцца між некаторымі нацыянальнымі меншасцямі і карэнным насельніцтвам. "Часам канфлікты ўзнікаюць з непаразумення і з узаемнай недаацэнкі, - гаварыла прадстаўніца міністэрства. - Трэба ведаць пра нацыі, што насяляюць Польшчу, як мага больш, трэба зламаць многія стэрэатыпы. Мы маем неблагія ўмовы для нармальнай дзейнасці, якія грэх не скарыстаць. Патрэбны здаровы канструктыўны падыход, а таму не варта ані сыпаць соль на старыя раны, ані насіць адзін аднаму новых". Прысутныя цалкам пагадзіліся з Казлоўскай.

Культурная праграма сустрэчы была і змястоўнай, і карыснай. У клубе ўкраінскай нацыянальнай меншасці адбылося выступленне нямецкіх харавых калектываў. Рэй на канцэрце трымаў Зміцер Дамброўскі. Цёпла было сустрэтае выступленне ўкраінскага калектыву "Думка" з Гурова-Ілавецкага пад кіраўніцтвам Уладзіміра Казубеля. Хор гэты існуе ажно з 1969 г., і за час свайго існавання выступіў з канцэртамі ў Швейцарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі, Нямеччыне і, натуральна, на Украіне. Вельмі спадабаліся скрыпач Славамір Кухар, бубнач Аляксандр Пястоўскі і асабліва гарманіст Мірон Мацыёпа, які з натхненнем выканаў песні "Під дубіною", "Каліна-маліна" і "Ой, не плавай лыбедынько". Вялікі поспех мела і выступленне Тамары Болдак-Яноўскай, якая чытала свае вершы - вопліскі былі бясконцыя. Творчасцю паэткі зацікавіліся і немцы - Ральф Гіэрдана хоча напісаць у сваёй новай кніжцы пра беларусаў Польшчы і асобна -- пра творчасць Тамары.

"Значыцца, можна знайсці паразуменне, трэба толькі больш уважліва прыглядзецца адзін да аднаго", -- прыблізна такія думкі былі ў мяне пасля імпрэзы. Але літаральна праз тры дні нейкія мярзотнікі знішчылі нямецкія магілкі на ольштынскім цвінтары.

Што гэта, як не чарговая правакацыя?..

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**
г. Ольштын

## ЦІ АПОСТАЛ ПЁТР БЫЎ ПЕРШЫМ ЕПІСКАПАМ РЫМА?

Я хацеў бы пашырыць сказ з артыкула „Святыя Апосталы Пётр і Павел" з 28 н-ра „Нівы": „Тэза Рымска-каталіцкага касцёла, што быццам бы Пётр у 42-67 гадах быў першым епіскапам Рыма, не вытрымлівае крытыкі". Сапраўды, многія заходнія навукоўцы сумняваюцца нават, ці быў ап. Пётр у Рыме. Вядома, што ап. Павел быў выкліканы на суд у Рым, і, мажліва, што ён там быў забіты. Аб ап. Пятру такіх вестак у Евангеллі няма.

Згодна з сучаснай дактрынай каталіцызму, папа Рыма атрымаў усе атрыбуты ўлады ад ап. Пятра, які быў кіраўніком калегіі 12-ці апосталаў, перададзеныя яму Хрыстом. Калі ап. Пётр быў кіраўніком Касцёла, то рымскія папы павінны мець такую самую ўладу над усімі хрысціянамі. Гэты тэзіс паявіўся ў II і III стагоддзях у працах заходніх каталіцкіх тэолагаў і быў зацверджаны на I-ым Ватыканскім саборы ў 1870 г.

Заходнія тэолагі абгрунтоўвалі свой доказ, што ап. Пётр быў кіраўніком калегіі апосталаў, на Евангеллі ад Мацвея (16; 18-19), дзе Хрыстос быццам бы сказаў ап. Пятру: „Я гавару Табе: ты — Пётр (камень) і на гэтым камені я сатвару Царкву маю і брамы пекла не перамогуць яе. І дам Табе ключы Царства Нябеснага і што Ты звяжаш на зямлі, то будзе звязана на небе, і што дазволіш на зямлі, то будзе дазволена на небе". Заходнія навукоўцы мяркуюць, што манахі змянілі (дапісалі) тэкст Евангелля ад Мацвея ў II стагоддзі. Гэта даказвае праца „Дэтэсарон" Тыцыяна, у якой знаходзіцца ўвесь тэкст Евангелля ад Мацвея і ў ім вышэйзгаданых слоў Хрыста няма. Там толькі напісана: „Ты благаслаўлены Кефасе (скала) і брамы Хадэса (пекла) цябе не перамогуць". У Евангеллях ад Марка і Лукі і гэтага нават няма (глядзі Мк 8; 27-30, Лк. 9; 18-21). Там Хрыстос забараніў апосталам называць сябе Хрыстом, а ап. Пятра назваў нават д'яблам у Евангеллі ад Марка. Тыцыян памёр у 180 г. Так што толькі ў III стагоддзі паявіўся пашыраны тэкст (гл. 16, 17-19), і першы напісаў аб гэтым Арыген, які памёр у 254 г. І ап. Пётр нават у Іерусаліме не быў кіраўніком Царквы Іерусалімскай, а толькі брат па матцы Хрыста — Якаў Справядлівы, а пасля яго трагічнай смерці другі брат па мацеры Хрыста — Сімяон. Ап. Пётр не мог таксама быць першым епіскапам Рыма, бо хрысціянская абшчына ў Рыме паўстала за дзесяткі гадоў да прыезду ап. Паўла, а тым больш ап. Пятра. У „Пісьме да Рымлян" ад 58 г. ап. Павел ніводным словам не ўспамінае аб прабыванні ап. Пятра ў Рыме. Калі б ён там быў, ап. Павел напісаў бы аб гэтым. Першыя хрысціянскія абшчыны развіваліся пад кіраўніцтвам свяшчэннікаў, якіх яшчэ ў I стагоддзі называлі епіскапамі. Калі б нават ап. Пётр прыехаў у Рым і быў распяты, то ён не мог быць епіскапам Рыма і напэўна ён не вызначыў свайго намесніка, бо аднаасабовай функцыі епіскапа тады яшчэ не ведалі. Ніводзін апостал не называў сябе епіскапам. Адміністрацыйны падзел сярод хрысціян праводзіўся згодна з адміністрацыйным падзелам Рымскай Імперыі на правінцыі і епархіі. Нават Царквой у Іерусаліме кіраваў епіскап, які жыў у Кесарыі, бо там знаходзіўся рымскі пракуратар. Практыку ўвядзення іерархіі епіскапаў і мясцовых цэркваў згодна з іх палітычным значэннем устанавіў толькі Антыёхскі сінод у 341 г. І толькі тады епіскапа Рыма пачалі лічыць самым важным сярод епіскапаў, бо Рым быў сталіцай Імперыі. Але гэта было толькі ганаровае першынство, якое не давала яму ўлады над іншымі епархіямі. Гэта не падабалася рымскім епіскапам, і яны шукалі палітычнай асновы для сваёй улады, бо не заўсёды Рым быў сталіцай Імперыі. Напрыклад, пры імператары Дыяклецыяне (284-305) сталіцай была Нікадзімія, а Канстанцін Вялікі перанёс сталіцу ў Візантыю. І таму ў II стагоддзі паявіліся апакрыфічныя апавяданні, напрыклад, „Гісторыя Пятра", дзе пішацца, што ап. Пётр прыехаў у Рым змагацца з Шыманам Магам. У іншай „Гісторыі Пятра" піша аб уцёках ап. Пятра з Рыма ў часы Нерона ў 64 г. Калі ён пакінуў горад, то паказаўся яму Хрыстос. Ап. Пётр запытаў Хрыста: „Куды ідзеш, Пане?" (Quo vadis, Domine?). І Хрыстос быццам сказаў яму: „Іду, каб мяне другі раз распялі". Тады стала сорамна ап. Пятру і ён вярнуўся ў горад, дзе яго распялі галавой уніз. Выкарыстаў гэты расказ-фантазію Генрык Сянкевіч у сваім рамане „Quo vadis", за які атрымаў Ноблеўскую прэмію. Гэтыя фантазіі Рымска-каталіцкі касцёл прапаведаваў на набажэнствах. На гэтую легенду спасылаліся ў 1870 г. на I-м Ватыканскім саборы. У канцы II ст. была напісана „Гісторыя Пятра і Паўла", дзе апісваецца пакутная смерць Апосталаў 29 чэрвеня ў адзін і той жа самы час. Папа Клім (88?- 97?) — вучань ап. Паўла ў пісьме да Карынфян у 96 г. не ўспамінае ап. Пятра, а толькі ап. Паўла. Ігнацій з Антыёхіі ў пісьме да Рымлян таксама не ўспамінаў аб пакутнай смерці ап. Пятра ў гэтым горадзе і нават не прывітаўся з рымскімі епіскапамі, хаця рабіў гэта ў пісьмах да іншых епіскапаў. Паводле навукоўцаў, культ ап. Пятра ў Рыме пачаўся ў III стагоддзі ў сувязі з катакомбамі св. Севасціяна пры дарозе Вія Апія. Там быццам бы знаходзілася магіла Апостала, а не ў Ватыкане. Аб Ватыкане ўспомнілі сто гадоў пазней, пасля 313 г., калі Касцёл пачаў змагацца з паганскім культам Севіліі, а Ватыкан быў яго цэнтрам. Як бачым, можна вельмі сумнявацца, што ап. Пётр быў ў Рыме, а калі ён нават і быў, то не быў епіскапам. Зрэшты, ап. Пётр перад Рымам быў ў Антыёхіі і там заснаваў Хрысціянскую Царкву і яна ўсё-такі не дабівалася першынства і ўлады над усімі хрысціянамі.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

P.S. Многія дадзеныя, якія я тут прадставіў, ўзяў я з кнігі „Historia Papiestwa" (ks. dr Szczepana Włodarskiego. Wydawnictwo Literatury Religijnej 1964).

## III УСЯЛЕНСКІ САБОР — ЭФЕС, 431 г.

Быў ён скліканы імператарам Феадосіем II і прыняло ў ім удзел каля 200 епіскапаў. Галоўнай прычынай склікання сабора была ерась Нестара, які вучыў, што Дзева Марыя нарадзіла простага чалавека і толькі потым сышоў на яго Бог-Слова (Сын Божы) і прабываў у ім, як у храме (так як раней прабываў ён у Майсею ці іншых прароках). З тае прычыны назваў ён Ісуса Хрыста не Богачалавекам, а толькі Баганосцам, а Прасвятую Дзеву Марыю — не Багародзіцай, а Хрыстародзіцай.

Нестар быў выхаванцам антыёхскай школы, там таксама стаў прэсвітэрам, а потым канстанцінопальскім патрыярхам. Як патрыярх пачаў ён у сталіцы Візантыйскай Імперыі прапаведаваць сваю фальшывую навуку. Спробы пераканаць Нестара ў памылковасці яго навукі аказаліся безвыніковымі. Супраць яе выступілі, між іншым, александрыйскі патрыярх Кірыла і рымскі папа Келясцін ды асудзілі на памесных саборах у Александрыі і ў Рыме. У сувязі з тым, што ерась пачала распаўсюджвацца, для яе высвятлення і асуджэння патрэбны былі рашэнні ўсяленскага сабора. Эфескі сабор асудзіў Нестара і ўстанавіў праваслаўную навуку веры: у Хрысце з часу ўвасаблення (воплощения) ёсць спалучаны дзве натуры — Боская і людская, і менавіта таму Хрыстос з'яўляецца сапраўдным Богам і сапраўдным Чалавекам. Сабор вырашыў прымяняць у адносінах да Дзевы Марыі акрэсленне „тэотокос" — Божая Маці, а таксама ўмацаваў нікейска-канстанцінопальскі тэкст „Сімвала Веры", забараняючы складаць новы або рабіць папраўкі і дапаўненні. На саборы была асуджана ерась Пелагія з Брэтаніі, які, будучы свецкай асобай, вёў вельмі аскетычнае жыццё. Пасля нейкага часу папаў ён у духоўную пыхлівасць, пачаў адкідаць першародны грэх і памяншваць значэнне боскай ласкі (благадаці) у справе збавення. Потым адкінуў нават само збавенне. Гэтую ерась абверглі ўжо ў 418 годзе на памесным саборы ў Карфагене, а III Усяленскі сабор толькі ўмацаваў яго пастанову.

Эфескі сабор прыняў восем канонаў, якія галоўным чынам датычылі ерасі Нестара (2, 3, 4, 5), і „Сімвала Веры" (канон 7).

**С. Н.**

## НЕПРАЎДАПАДОБНАЯ ГІСТОРЫЯ



Аднойчы сустрэў я ў нашага дубіцкага настаяцеля Віталія Гаўрылюка незнаёмага дзедку з ясным позіркам і прыгожым тварам, які гаварыў на чыстай расейскай мове. Ён і свяшчэннік расказалі мне вельмі цікавую гісторыю старога ўжо чалавека, які ўсё жыццё ішоў дарогай пакутаў.

Наш настаяцель, Віталій Гаўрылюк, у 1988-91 гадах жыў у Рэгенсбургу ў Баварыі (ФРГ), дзе служыў святаром у Рускай Зарубежнай Царкве. Падчас богаслужэнняў звярнуў ён увагу на вельмі набожнага пажылога верніка. Неўзабаве выявілася, што гэта расейскі эмігрант, які пражывае ў тым жа доме, што і настаяцель. Дзядулю 92 гады, называецца ён Андрэй Іванавіч Асееў і выводзіцца з кубанскіх казакоў. У сваёй станіцы - Уладзіміраўскай,называнай так у гонар яе заснавальніка, князя Уладзіміра - быў ён чабаном, пасвіў авечак. І хаця быў ён толькі пастухом, меў такія самыя правы, як і ўсе казакі, і з яго словам лічыліся. Было гэта аднак даўно - пры цары Мікалаю II. Калі ўспыхнула I сусветная вайна, усе здольныя да службы казакі пайшлі ваяваць, а наш Андрэй астаўся дома, бо быў яшчэ падлеткам. Пасля бальшавіцкага перавароту пачалася грамадзянская вайна і амаль усе казакі пайшлі ваяваць супраць бальшавікоў. Бальшавікі аднак не забылі сваіх праціўнікаў. Многа здзекаў і гора перанеслі казакі, не толькі кубанскія але і сібірскія, уральскія, данскія. Многія сем'і былі замучаны. Бальшавікі намагаліся знішчыць дух казацтва, іх любоў да Айчыны і веру ў Бога.

У 1928 годзе Андрэй ажаніўся з мясцовай казачкай Варварай, а ў наступным годзе нарадзілася ім дачушка Аляксандра. Памерла яна аднак у 1932 годзе з голаду. Тады падчас славутай "калектывізацыі" людзі мерлі як мухі, хаця Кубанскі край багаты чарназёмам. Вельмі часта з казацкіх сем'яў нехта прападаў без вестак. Пра гэта клапаціліся супрацоўнікі Г. Ягады і М. Яжова. У гэты кашмарны час у Андрэя і Варвары нарадзіліся дзве чарговыя дочкі Каця і Раіса. У пачатку 1941 года Андрэя адправілі ў Барысаў на Беларусі, працаваць на нейкім ваенным аб'екце. У чэрвені 1941 года пачалася нямецка-савецкая вайна і Андрэй апынуўся ў руках немцаў, у асобым ваенным лагеры. Немцы, адкарміўшы палонных, накіравалі іх углыб Нямеччыны. Андрэя Асеева вывезлі аж у Баварыю, дзе яму прышлося, так як і ў маладосці, пасвіць авечак у баўэра. Пасля вызвалення амерыканцамі пабаяўся ён вяртацца ў Расею, бо ведаў, што яго там чакае. Сумаваў ён па Радзіме, дзе асталіся жонка, дочкі і вялікая радня. Недзе пры Хрушчове асмеліўся ён напісаць пісьмо жонцы і дзецям. Атрымалі яны яго і вельмі ўцешыліся. Калі дачка Раіса чарговы ўжо раз перачытвала бацькава пісьмо, убачыў гэта яе муж, заўзяты бальшавік. Даведаўшыся, што пісьмо з Нямеччыны, схапіў ён сякеру і ўрэзаў жонку па галаве. Не забіў, праўда, але цяжка параніў. Доўгі час праляжала яна ў бальніцы і пасля яшчэ і яна, і маці мелі многа непрыемнасцяў ад улад за тое, што іх бацька і муж жыве ў "фашыстаў". Але яе муж-бандыт нават і дня не сядзеў у турме за ўчынены разбой. Андрэй Асееў не меў ніякай магчымасці забраць жонку і дочак да сябе. Жыў ён ў Рэгенсбургу адзінока, а пасля адыходу на пенсію займаўся кулінарыяй і малітвай. Такім спаткаў яго наш святар і яны шчыра пасябравалі. Калі а. Віталій Гаўрылюк вярнуўся ў Польшчу, ён тут жа стаў ладзіць кантакт з сям'ёй свайго прыяцеля. Афарміўшы сабе і жонцы Валі запрашэнні ў Расею, паехалі яны на сваім аўтамабілі ў станіцу Уладзіміраўскую, якую бальшавікі перайменавалі на Новую Сінюху. Спаткалі там жонку Андрэя Варвару і іхнія дочкі. Жылі яны ў вялікай бядзе, як і іншыя жыхары васьмітысячнай станіцы. Было гэта тры гады таму. А вось у бягучым годзе а. Віталій Гаўрылюк запрасіў А. Асеева да сябе, у Польшчу, адкуль яны разам, на машыне святара, з'ездзілі на радзіму нашага героя. Можам сабе ўявіць, што перажываў дзедка, вяртаючыся на Радзіму пасля 53 гадоў. Ехалі яны некалькі сутак разбітымі дарогамі цераз негароджаныя і небрукаваныя вёскі з хатамі "на курыных ножках". У станіцы Уладзіміраўскай на іх чакалі жонка, дочкі, якія не памяталі свайго бацькі, і нямногія сябры. Дзедку вельмі ўразіла беднасць жыхароў станіцы, многія з якіх жывуць у зямлянках. Варвара, жонка Андрэя, мае сваю маленькую хатку. Яна хворая на ногі, ляжыць у пасцелі. Ёй ужо 87 гадоў. Дачка Раіса не мае ні мужа, ні дзяцей. Другая дачка Каця мае сына і дачку. Людзі ў станіцы жывуць вельмі бедна, ядуць у асноўным кукурузу, вараную або і сырую. З яе гоняць таксама самагонку і на кожным панадворку стаіць бочка гэтага "золата". П'юць яе і старыя, і маладыя, а нават дзеці. Моладзь не мае пашаны для старэйшых, проста - нейкая дзіч. Дзіўнае, што ніхто з жыхароў станіцы не наракае на свой лёс, а зусім наадварот, яны цешацца сваім разгульным, пустым і бедным жыццём. Андрэй Асееў, едучы на Радзіму, думаў астацца ў роднай станіцы, але пабачыўшы, што там робіцца, пабаяўся, што сэрца яму разарвецца, гледзячы на ўсё тое, што бальшавізм пасля сябе пакінуў. Каб хаця быў такі парадак, як у Польшчы, на Беласточчыне, дык, напэўна, астаўся б на сваёй Радзіме аж да смерці. Вярнуўся ён разам са сваім настаяцелем у Польшчу і цяпер чакае ад'езду ў Рэгенсбург - адвязе яго туды а. Гаўрылюк. Там ён кухарам у свайго бацюшкі, гатуе вельмі добрую ежу. Сам ён мяса не есць, толькі дыетэтычныя стравы. Не п'е ні кавы, ні чаю, толькі напіткі з зёлак. Можа ў гэтым і заключаецца таямніца яго даўгавечнасці?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**29 - 06 - 1989 г.**

З Крынак — стрыг траву касілкаю і, нажнамі — жываплоце; нарабіўся, каб псіхічна акрыяць. Передумаць. — Пераломная вясна '89. Падзеі апераджаюць не толькі думкі, але і мары. Баюся, што занадта хутка адчыніліся перад намі перспектывы імкліваг ходу дапераду. Будзе бракаваць нам сілаў. Кадры нашы вельмі ж маладыя (чатыры гады назад гэта былі яшчэ дзеці). Старая гвардыя — некалькі асоб; рэшта — нацыянальны еўнухі, якія з мацнеючым пярэпалахам азіраюцца на ўсё тое, што адбываецца (адзін Барскі з іх паспявае неяк перабудоўвацца?). (...)

**08 - 07 - 1989 г.**

(...) Выяўляецца важнае: наша вёска прыняла мінімальны ўдзел у выбарах, нярэдка ўсяго ў 20-25%; пенсіянерская яна, без пачуцця будучыні. Таму большасць нашых галасоў — гэта гарадскія, местачковыя. (...)

**10 - 07 - 1989 г.**

Тры тыдні „імчаў" да мяне ліст ад Данусі. Не дзіва, калі яна апісвае ў ім гутарку з пракуратурай і з палітычнай паліцыяй накont „Рэанімовы", і пра тое, што на Купалле да нас (пры)едуць не столькі іхныя „паходнеўцы", колькі шпіёнаманскія камсамольцы. Хоць і з бела-чырвона-белымі лентамі на чубах, былі! (...)

**24 - 07 - 1989 г.**

(...) пазваніў Курань: „Салідарнасць" настойвае на ўтварэнні Камісіі нацыянальных меншасцяў Сейма ПНР. „Паспавядаўся" з таго, што ў выбарах не палічыліся з беларускімі інтарэсамі, робячы намёк на польскі крэсавы нацыяналізм...

Пачынаецца нешта накшталт неабавязковай барацьбы паміж палітычнымі патэнтатамі за ўплыў у беларускім асяроддзі, бо выявілася, што... не эфемерыда яно. (...)

**13 - 08 - 1989 г.**

Бог пакараў мяне нясціханай гутаркай з людзьмі, якія толькі чулі пра беларусаў. Удзень — з гдынскімі гарцэрамі (у сасновіку каля Сакалды). Увечары ж — з журналістам „The Observer" пра выбары і інш. (Neal Ascherson, шатландзец). Накіраваў яго яшчэ да Геніка Міркановіча.

**29 - 08 - 1989 г.**

На пленуме беластоцкага ВК ПАРП: Барскі, Луба, Стахвюк, А. Мірановіч, і я. У ролі запрошаных, хоць мог быць з БГКТ на ім, практычна, хто хацеў (Генік Мірановіч не пайшоў); (...) Уражанне ад пленума такое, як бы сабраліся нейкія анахронікі, людзі, якія жывуць мінулым.

Наша прысутнасць вязалася з выпрацоўкай — упершыню ў іхнай правінцыянальнай гісторыі — Stanowiska w sprawie mniejszości narodowych (у рэгіёне). Гэта не іх ініцыятыва, а вымушана Варшаваю (у сувязі з вядомымі падзеямі).

Ад нашае групы выступіў Барскі, добра! У заключэнне сказаў нешта неўяўляльнае ім — патрэбна беларуская культурная аўтаномія ў Беласточчыне!!! Шум пайшоў па публіцы гэтых „мінуўшых людзей". Шум нязгоды, хоць Алесь зазначыў, што таго ж — і нават болей! — дамагаюцца палякі на Віленшчыне.

Ідэя pro publico bono ўжо нікуды не падзенецца, завозьмецца жыць. Так знаходзяць, памалу, сваю санкцыю ды распаўсюджанне „Dumki pra aŭtanomiju".

У кулуарах — з паслом Цімашэвічам: сеймавую Камісію нацыянальных меншасцяў узначаліў Курань (ён пратэгуе мяне ў ейныя эксперты). І Цімашэвіч у ёй; адным з намеснікаў Кураня... Яўген Чыквін, так, той самы, які рабіў з мяне агента „S". (...)

Сённяшні „Kurier Podlaski" даволі сумленна перадае сенсацыйнае выступленне Барскага, выносячы ў надзагаловак — Autonomia dla Białorusinów? А партыйная „Gazeta Współczesna" маўчыць, як усраўшыся! Можа заўтра што-лень прамэкае яна...

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— „Dumki pra aŭtanomiju" — брашурнае выданне падпольнага Беларускага Незалежнага Выдавецтва, у палове васьмідзесятых гадоў;*

*— „Gazeta Współczesna" — у той час выходзіла ў якасці штодзённай газеты Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі.*



*Сакрат не спіць, Сакрат думае.*

# ФАРТЭПІЯНА, САЛА І ЦЫБУЛЯ

Назіраючы за паводзінамі маіх знаёмых і сваякоў, якія нарадзіліся і выхаваліся на вёсцы, а цяпер жывуць у горадзе, я дайшоў да вываду, што чалавек, пазбаўлены кантакту са сваім натуральным асяроддзем пераўтвараецца ў нейкага дзіўнага мутанта. Наш селянін ужо пасля некалькіх гадоў адукацыі ў дзяржаўнай школе пачынае саромецца ўсяго таго, чым нармальны чалавек павінен ганарыцца. З энтузіязмам адракаецца ад свае мовы (пра нацыянальнасць не ўспамінаю, бо найчасцей ён яе не мае), без ніякіх праблемаў мяняе веравызнанне, а нярэдка таксама прозвішча і імя. Найбольш актыўныя мяняюць імёны сваіх бацькоў, калі яны могуць быць доказам іх "кацапскага" паходжання. З юрыдычнага і біялагічнага пункту гледжання яны - людзі, але з маральнага?.. Зразумела, не яны вінаватыя ў сваёй трагедыі, толькі палітычная, грамадская і культурная атмасфера, у якой раслі.

Слухаю такога "нашага бізнесмена", у кабінеце якога залатыя клямкі, які ганарыцца тым, што ніколі не прачытаў ніводнай кніжкі, але здаў матуру. Праўда, купіў некалькі дзесяткаў тамоў для свайго кабінета, але толькі таму, што ў іх прыгожыя вокладкі з бліскучымі літарамі і вельмі добра падыходзяць да "рэгала" за 40 мільёнаў. Бізнесмены маюць таксама свае праблемы. Мой знаёмы хвалюецца тым, што палякі называюць яго беларусам, а ён сам не надта ў гэтым упэўнены. Хаця любіць ён музыку "Дубіноў" і ў царкву, калі бывае на вёсцы, заходзіць, аднак не разумее, чаму ён - беларус. "На пабудову новага касцёла даў я больш, чым на рамонт царквы, - гаворыць, - і ўсе тыя мае знаёмыя добра пра гэта ведаюць, але для іх здаецца, што да канца буду рускім". "Гэтыя падзелы на палякаў, беларусаў, рускіх, праваслаўных, католікаў зусім без сэнсу, - тлумачыў. - Найважнейшае, каб людзям добра жылося, каб мелі працу, харчы і хату". І паспрабуй з ім не згадзіся!

Мой швагер, дырэктар вялікага прадпрыемства, такіх праблемаў не мае. Нарадзіўся ён у Беластоку і быў назіральнікам таго, як яго бацькі, родам з падміхалоўскай вёскі, змагаліся са сваёй тоеснасцю, каб не быць неграмі ў гэтай усходнееўрапейскай сталіцы апартэіду. Імя будучаму дырэктару далі такое, што вясковай бабулі цяжка і вымавіць. Прозвішча змянілі недзе ў палове 70-х гадоў. Памяняў у ім толькі адну літару і тадышні "чырвоны мітрапаліт" беластоцкі Здзіслаў Куроўскі назначыў яго адразу на пасаду дырэктара. Ніхто і не мог здагадацца, што ён - добра закансьпіраваны "кацап". У сямейным крузе швагер называе сябе "праваслаўным палякам", а падвыпіўшы спявае беларускія і рускія песні. Аднойчы на вяселлі з падобнымі сабе сябрамі прабаваў спяваць штосьці, што пачыналася словамі "Глэмбока студзенка..." , але не надта добра ім гэта атрымалася.

Некалькі месяцаў таму швагер запрасіў мяне на юбілей з дня свайго нараджэння. Сядзелі там нейкія дзядзькі, якія называлі сябе "пане прэзэс", "пане доцэнце", "пане дырэктожэ". Гаварылі пра сустрэчы і "брудэршафты" з міністрамі, ацэньвалі навейшыя мадэлі "мерседэсаў". Іх жонкі стараліся гутарыць пра мастацтва, адна нават чула нешта пра Ван Гога. З нейкай экзальтацыяй сказала: "Нех ктось намалюе такі образ як Мона Ліза. Тэн Ван Гог то мял талент". Была вельмі дастойная атмасфера. Дзядзька, які сядзеў побач мяне, запытаў пра мой гадзіннік, а я яму адказаў па-беларуску, прадаўжаючы свой маналог у бок швагра, які сядзеў насупраць мяне. Трэба было пабачыць ягоны твар - быццам бы цэлы свет зваліўся ў адну хвіліну. Тут жа сабраліся людзі, якія сустракаюцца з міністрамі, размаўляюць пра мастацтва і раптам прагучала гэтая "праклятая" мова, якая напамінае ўсё, што мела найгоршую легенду. Гаспадар аж спацеў, разгублены, прабаваў нешта тлумачыць пра сваякоў з вёскі, але перш за ўсё стаў шчыра наліваць "жытнёўку".

Дзве гадзіны пасля "прэзэс Метэк" крычаў у мой бок: "Я любе бялорусінув, муй татусь тэж был праваславны". "Дацэнт Януш" сваю кумпястую жонку "пяшчотна" называў "Ты, мазурко пер...", а нейкі лысы і спацелы дырэктар, абняўшы швагра, хіба з пяць разоў пачынаў спяваць пра "брадзягу, які Байкал перасахаў". Я адчуваў сябе тут як у сваёй вёсцы падчас вячэры пасля малацьбы. Усё было нармальна.

Сын майго швагра вучыцца англійскай мове і іграе на фартэпіяна. Страўнік яму разбалеўся, калі пабачыў свайго дзеда, які еў сала з цыбуляй. Яго прадзед памёр з голаду пасля вяртання з бежанства.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

# СУВАЛЬСКІЯ ЎРАЖАННІ

Паўночна-ўсходняя частка сувальскіх азёраў - самая маляўнічая і чыстая экалагічна частка Польшчы. Заўважальны тут стык заходняй і ўсходняй культур, феномен культуры пагранічча. У ваколіцы мястэчка Віжайны напамінаюць польскія і літоўскія вёскі, а пра даваенну рэчаіснасць ёсць сляды Усходняй Прусіі - нямецкая і яўрэйская архітэктура. Археолагі знаходзяць сляды старажытнай культуры яцвягаў. Першыя палякі пачалі пасяляцца ў XVI стагоддзі. Літоўскія суседзі, бывае, па сённяшні дзень насцярожаныя і непрыхільныя да іх. Амаль не сустракаецца тут вёсак з мешаным насельніцтвам, а назвы засталіся ў іх балцкія. Турыст можа здзівіцца, калі ў Скайзгірах ці Машутейках не ўбачыць ніводнага літоўца. У мове тутэйшых палякаў шмат літоўскіх слоў і граматычных канструкцый. Беларускія сляды таксама зазначаны ў лексіцы, асабліва фальклорнай.

Мяне цікавіла справа нацыянальных меншасцяў. Маімі размоўцамі былі інтэлігенты і земляробы з вёскі Бондзішкі. Меншасці для іх атаясамляюцца з літоўцамі, адвечнымі іх суседзямі, якія карыстаюцца незразумелай славянам моваі і жывуць у культурнай і грамадскай адасобленасці. Рэдка сустракаюцца тут мешаныя сужонствы. Палякі выказваюцца на гэтую тэму без энтузіязму. Старэйшыя абавязкова ўспамінаюць час вайны і абураюць іх літоўска-нямецкія кантакты. Адзін дзядка расказаў мне, як у 1943 годзе папрасіў па-літоўску жыхара Пуньска яблык, і далі яму іх гурбу, але, калі забыўшыся, сказаў нешта бацьку па-польску, "літовец" яблыкі забраў, узлаваўся і стаў гаспадзін палохаць немцамі. З дзеда-прадзеда перадаецца вобраз "тыповага ліцвіна": дзябёлай фігуры, хамаваты ў паводзінах, бабу сваю б'е без прычыны (тут я ўспомніла падобны стэрэатып: бышы студэнткаю, пыталася я ў варшаўскіх знаёмых, як, па-іхнаму, выглядае "тыповы беларус"; адказы былі зусім падобныя. Беларус "pije na umór").

За паспалітымі банальнасцямі выказванняў гучала іншая нота. Нікога тут не здзіўляе, што ў літоўцаў ёсць свая чалавечая амбіцыя. Нікога не можа абурацъ тое, што яны хочуць быць літоўцамі і служыць свайму народу. Нікога не дражніць факт, што віднеюць літоўскія надпісы на крамах і вуліцах Пуньска. Феноменам нармальнасці з'яўляецца каталіцкі касцёл, у якім вернікі моляцца на сваіх родных мовах. Хвалюе маіх размоўцаў (хаця быццам бы і не здзіўляе), што ў пуньскім рэстаране V катэгорыі "Ruta" падаюць "літоўскія стравы", ды не абслугоўваюць... палякаў (мяне, на шчасце, накармілі). Здзівіла іх тое, што ёсць у Польшчы, недзе ў Гайнаўцы, беларусы, якія адчуваюць сябе так, як яны ў "Rucie". Нашыя, відаць, беларускія праблемы, зразумелыя толькі для нас, ды і то не для ўсіх.

**ГАННА КАНДРАЦЮК-СЬВЕРУБСКАЯ**
Бондзішкі, ліпень 1993 г.

# ЛІКВІДАЦЫЯ УЖГАРОДСКАЙ УНІІ

Пра гэта пішацца ў кнізе „Прымусовая ліквідацыя Ужгародскай уніі", выдадзенай Таварыствам „Памост", друкаванай у Менску ў 1993 г. тыражом 1000 асобнікаў. Аўтар славак Міхал Ляцко, перакладчык — Тамаш Леанюк.

Кніга расказвае пра ліквідацыю касцельнай уніі на Закарпацці і ў Славакіі ў 1949 годзе. Пра гэта пісаў у тым жа годзе Журнал Маскоўскай Патрыярхіі, а святар Н. Паўлюсюк у тэксце п. з. „Вялікі трыумф Праваслаўнай Царквы на Падкарпацці" пісаў так: „Гэта свята было каранаваннем шасцімесячных вялікіх высілкаў і працы архіепіскапа Макара. Калі першы раз прыбыў ён на Закарпацкую Русь, не знайшоў там ні аднаго уніяцкага святара, які прыняў Праваслаўе. Было многа духоўнікаў, якія чакалі з'яднання Праваслаўнай Царквы з Грэка-каталіцкай. І наступіла гэта. (...) Літургію адпраўлялі ў капліцы на пляцы некалькі сот метраў ад манастыра. Пляцык быў абсаджаны дрэвамі, за імі была манастырская вінніца. Выкарыстаці гучнагаварыцелі, каб вернікі чулі літургічныя песні ды пропаведзі. Уладыка-венгерац адпраўляў багаслужбу па-венгерску (айцы Пап і Бега былі венгерцамі, якія вярнуліся ў праваслаўе)..."

Кніжку можна заказаць у выдавецтве:

Towarzystwo „Pomost"
03-337 Warszawa
ul. Wyszogrodzka 4

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# МАЯ ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА

*"Ніва" працягвае знаёміць з успамінамі чытачоў пра першую беларускую кніжку. Сёння сваімі ўражаннямі дзеліцца Сакрат Яновіч.*

### ЯК ПОЛЬСКІ ЭЛЕКТРЫК СТАЎ БЕЛАРУСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ

Увогуле, электрык - самая небяспечная прафесія для камуністычных уладаў былой ПНР. Адзін гданьскі электрык, "начытаўшыся інструкцый ЦРУ" (як калісьці пісалася ў друку), сарганізаваў "Салідарнасць", якая цалкам змяніла грамадска-палітычную сістэму Польшчы. Другі электрык - з Беластока - стварыў першую ў пасляваеннай Рэчыпаспалітай беларускую партыю, і без чытання адпаведнай літаратуры тут таксама не абышлося. Як вы слушна здагадаліся, наш сённяшні суразмоўца - Сакрат Яновіч - найпершы беларускі экстрэміст Беласточчыны.

Вось як апісвае глыбокашаноўны нацыяналіст сваё першае спатканне з беларускім друкаваным словам:

"У 1953 годзе патрапіла мне на вочы праца беларускага навукоўца Дабрыніна пра Скарыну - дакладнай назвы не памятаю. Кніжка тая была навуковая, пісалася яна, пэўна, больш для спецыялістаў, чым для шырокай грамадскасці, але на мяне зрабіла вялікі ўплыў: як, маўляў, мы дагэтуль не ведалі, што мы, беларусы, не нейкае лапатнае быдла, што мы некалі непасрэднае дачыненне да еўрапейскае цывілізацыі - бач ты, кніжкі выдавалі, ды яшчэ калі, ды яшчэ якія... Карацей, гэта было сапраўдным адкрыццём, і я, натуральна, не мог трымаць яго ў сакрэце - адразу ж падзяліўся ім з сябрамі. Тыя напачатку не паверылі: "Ён жа Пранцішак, пэўна, каталік, паляк, мо не наш..." Давялося даць ім тую працу прачытаць. Пайшла тая кніжка "па колу", і маіх аднадумцаў адразу пабольшала. Тое калектыўнае чытанне мела нечаканыя працяг: мы сарганізавалі напаўпадпольны гурток моладзі нацыянальна-асветніцкага накірунку - гэткая абгрунтаваная ўзростам і нечаканым пачуццём беларускай свядомасці гульня ў рамантыку. Я нават нарабіў сябрам гуртка саматужныя пасведчанні з гербам БССР (пра "Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг на той час, натуральна, ніхто з нас не ведаў). Убачыў аднойчы тыя легітымацыі адзін мой знаёмы і за галаву ўхапіўся: ты што, дурань, калі гэта ўбачыць хто-небудзь з агентаў ці "стукачоў" УБ, ведаеш, што яны вам "прышыюць"? А то былі пяцідзесятыя гады, эпоха Берута... Як ні было шкада, але тыя паперкі давялося занесці на гарышча і паціху спаліць - ледзьве пажару не нарабілі...

Але гісторыя на гэтым не канчаецца: праз нейкі час трэ было мне напісаць курсавы праект у сваім электратэхнічным тэхнікуме - умоўную схему электрыфікацыі жылога будынка. А на схеме я быў абавязаны напісаць нейкі адрас той забудовы. Ну, начарціў я праект, а адрас, не доўга думаючы, падаў такі: Беласток, вуліца Скарыны, дом № такі та. Паглядзеў мой кіраўнік праект, з тэхнічнымі дадзенымі пагадзіўся цалкам, а наконт умоўнага месцараспалажэння запытаў: "А дзе ж у Беластоку такая вуліца? Хіба ёсць?" "Пакуль не, але ж будзе калі-небудзь!" - запэўніў я.

І вось бачыце як: столькі часу мінула, я перачытаў яшчэ процьму беларускіх кніжак, сам тое-сёе напісаў, выдаў, пасталеў, састарэў, маладыя паненкі мяне ўжо за мужчыну не ўспрымаюць, а вуліцы Скарыны ў Беластоку так і няма..." - з сумам скончыў свой маналог глыбокапаважаны нацыяналіст.

* * *

"ЯКІЯ ТРЫ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ ЎЗЯЎ БЫ З САБОЮ НА НЯЗВЕДАНУЮ ВЫСПУ САКРАТ ЯНОВІЧ?"

1. Янка Брыль. "ЖМЕНЯ СОНЕЧНЫХ ПРОМНЯЎ"
2. Вячаслаў Адамчык. "ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА"
3. Іван Пташнікаў. "ТАРТАК"

Падрыхтаваў
**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# БЕЛАРУСАМ ПРА БЕЛАРУСАЎ

*В. Кіпель. "Беларусы ў ЗША"., пераклад С. Шупы. Менск, "Беларусь", 1993 г., - 350 с., наклад 5000 паасобнікаў.*

Да нядаўняга часу афіцыйны беларускі друк свядома замоўчваў факт існавання беларускіх патрыятычных груповак у вольным свеце, а калі і выпадала пісаць пра іх з якой-небудзь нагоды, дык выключна ў чорных фарбах: маўляў, усе яны недабітыя паліцаі, здраднікі Савецкай Беларусі, калабаранты чортавы, ды й увогуле - "яны палілі Хатынь". Праўда, што тычыцца відавочнай нелюбові беларускіх патрыётаў паза межамі БССР да тагачаснага дзяржаўнага ладу, то тут афіцыйны друк, безумоўна, меў рацыю. Але "здраднікамі" іх наўрад ці можна было назваць, бо ніхто з тых людзей ніколі не прысягаў камуністам. Што тычыцца Хатыні, гэтаксама і іншых беларускіх вёсак, спаленых падчас вайны, то толькі цяпер, нарэшце, з рассакрэчаных дакументаў ды ўспамінаў відавочцаў высветлілася, што абсалютную большасць карных аперацый на тэрыторыі Беларусі праводзілі не Беларуская краёвая абарона (якую немцы дазволілі толькі пасля разгрому пад Курскам у 1943 годзе), і не Саюз беларускай моладзі, як звычайна падавалася ў рэспубліканскім камуністычным друку, а спецыяльныя батальёны літоўцаў і ўкраінцаў.

Але стаўленне пераважнае большасці рэспубліканскага грамадства да беларускіх эмігрантаў і дагэтуль відавочна адмоўнае. І таму надзвычай карысным падаецца мне кніжка Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", выдадзеная ў Беларусі. У адрозненне ад аналагічных гістарычных (а хутчэй - антыгістарычных) даследаванняў савецкіх аўтараў, гэтая праца вызначаецца сапраўдным навуковым падыходам, кампетэнтнасцю і аб'ектыўнасцю.

Цікаўны чытач можа дазнацца, што першыя імігранты-беларусы з'явіліся на паўднёваамерыканскім кантыненце ажно ў XVIII- XIX ст.ст., а то і раней (прыводзіцца цікавая гістарычная вытрымка пра тое, што "6 чэрвеня 1610 года імігрант з горада Белестоку, доктар Лаўрын Багун прыбыў у Каленії"). Досыць грунтоўна апавядае аўтар пра масавыя хвалі беларускай іміграцыі пачынаючы з канца мінулага стагоддзя, а таксама пра прычыны гэтай іміграцыі. Увагі вартыя і раздзелы, прысвечаныя праваслаўнаму руху беларусаў у ЗША, а таксама главы "Беларуска-амэрыканскія культурныя дачыненьні" і "Беларуска-амэрыканскія культурныя сувязі". Паасобку можна паставіць раздзел "Сацыяльны партрэт амэрыканскіх беларусаў" - абсалютна натуральна, што людзі, выхаваныя ў сапраўды дэмакратычных традыцыях Злучаных Штатаў, падтрымліваюць палітычныя і культурніцкія працэсы ў Рэспубліцы. "Абсалютная большасьць нацыянальна сьвядомых беларускіх імігрантаў у ЗША ды іхніх нашчадкаў уважаюць, што будучыня Беларусі, дапамагаць якой гатовыя сёньня амэрыканская беларуская калёнія, - у адкрытым дэмакратычным грамадзтве", - сцвярджае Вітаўт Кіпель.

Застаецца дадаць, што кніжка, як ужо можна было заўважыць з некаторых цытатаў, выдадзеная ў адпаведнасці з "тарашкевічаўскім" правапісам, і аздоблена фотаздымкамі, якія ілюструюць сучаснае жыццё беларускай грамады ў Злучаных Штатах. Спадзяюся, што ў справе адраджэння гістарычнай справядлівасці кніжка гэтая будзе надзвычай спрыяльнай.

**(сл)**

## Новыя вершы

*ВІКТАР ШВЕД*

**СЯМЕЙНЫ ЗДЫМАК**

*Памяці бацькоў*

Дзядзьку вайна ў Сібір загнала
І ён абжыўся за Уралам.

Пісаў ён брату: — Як магчыма,
Прышлі ты мне сямейны здымак.

У Вілька атэлье мы скора
Паехалі ў суседні горад.

Фатограф спраўна, з пачуццём,
У кадры затрымаў жыццё.

Шаную здымк, на каторым
Бацькам было гадоў па сорак,

Адсвяткавала сястра Ніна
Дзесятую ўжо гадавіну,

А я на ім, русагаловы,
Быў хлапчуком шасцігадовым.

А брату Пеціку тады
Стукнула толькі два гады.

І гэты здымачак адзіны
З маіх дзіцячых успамінаў.

Мой даражэнькі дзядзька Якаў,
Табе за гэты здымак дзякуй!

**„ВЫБЫЛ НЕИЗВЕСТНО КУДА"**

*Памяці дзядзькі Якава*

Жыў дзядзька Якаў у Сібіры,
Сярод адвечнай мерзлаты.
Тужыў ён па радзіме шчыра
І да радні пісаў лісты.

Слаў вестачкі з сібірскай далі
Братам у Польшчы дзядзька наш.
Яму за гэта прыпісалі
У карысць Польшчу шпіянаж.

І не было ўжо дзе вывозіць,
Жыў жа ў Сібіры дзядзька мой.
За памяць аб радні ў астрозе
Плаціць уласнай галавой.

Стала вядома, расстралялі
Дзядзьку ў трыццатыя гады.
А нам ды толькі напісалі:
„Выбыў няведама куды".

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**КУПАЛЛЕ**

Вечар раніцы падае далоні,
ноч купальная — ноч чараўніца.
Лес не спіць. Аб бераг звоніць
сярэбранай вадой крыніца.

У хмурнай ельніку чупрыне
Сузор'е свой касцёр наклала
і месяц шэпча ўсёй яліне,
што ў траў кудзелю зорка ўпала.

А мо не зорка, можа гэта
гарыць каханнем маладзіца,
а можа папараці кветка
каго-небудзь да шчасця кліча.

Глядзіш і сам ужо не знаеш,
што праўдай явіцца, што сніцца.
Босай нагой ў траву ступае
Купалле — ночка чараўніца.

*МІРА ЛУКША*

* * *

Нарадзіўся ў племені ўтаптаным нагамі
Чужынцаў і тутэйшых у бруд,
на скрыжаванні
Шырокіх гасцінцаў, на голым месцы
Высахлых рэк і пожняў спаленых
Пад корань. Дзе ж корань яго?
Жывым сокам і гноем поены,
Едкім попелам з незакончаных стрэх,
Зрубаў хат не дачакаўшыся сыноў?..

* * *

рэчы сочаць за намі цярплівыя злосныя
ў люстрах прасторы кінутага месца
непрысутных калысак і трунаў сасновых

*Д. ШАТЫЛОВІЧ*

**ДУМКІ САМОТНІКА**

Я не зайздрошчу нікому:
Славы, багацця, зямлі,
Дачы, прыгожага дома,
Нават кватэры ў Крамлі

І не зайздрошчу я ўлады,
Гімнаў пахвальных, рэклам,
Ні міністэрскай пасады,
Ні панегірыкаў дам.

Толькі хачу быць здаровым
Толькі хачу мець спакой,
Сонца і луг каляровы,
І дзесь будан над ракой.

І там на лоне прыроды
Цешыцца бляскам вады,
Кветкамі, цёплай пагодай
І гушчаром маладым.

І вось шкадую я толькі,
Што ўжо прайшла маладосць.
Помню яе, як вясёлку,
Бо завітала, як госць.

Як фільм, яна праляцела,
Як рад адборных карцін,
І, як свяча, дзесь згарэла...
Толькі астаўся ўспамін.

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# СВЯТАЯННІК

Святаяннік (*Hypericum perforatum* L.) расце не толькі ў Польшчы, але і — у розных формах — у цэлай Еўропе, Азіі і паўночнай Афрыцы. Можна сустрэць яго як на нізінах, так і ў падгорных мясцовасцях — у зарасніках, на сухіх узгорках, лугах і межах. Часта расце ў сімбіёзе з іншымі зёлкамі.

Прамое сцябло святаянніка дасягае вышыні 60 см. Лісце расце супрацьлегла, яно без хвосцікаў, даўжыня — да 3 см. Калі аглядаць лісток гэтай расліны пад святло, можна пабачыць светлыя пункты, якія прасвечваюцца, ствараючы ўражанне дзірак. Адсюль паходзіць і назва гэтай расліны па-польску: dziurawiec. Апрача таго, на краях лісткоў відаць чорна-пурпуровыя залозкі. Кветкі святаянніка прамяністыя, дыяметрам каля 3 см, з жоўтай кронай, сабраныя на канцах сцяблінак у суквецце. Цёмна-карычневае насенне знаходзіцца ў мяшочку даўжынёю да 1 см.

Для лячэбных мэт збіраюць расцвітаючыя, са шматлікімі лісцьмі верхнія часткі сцяблін даўжынёю да 25 см і сушаць як мага хутчэй у цяністых і прадзьмуваных месцах. У ацяплаемых сушарнях тэмпература не можа быць вышэйшай за 35°С. Ніжнія, цвёрдыя часткі сцяблін трэба адкінуць, а зёлкі, якія атрымаюцца, называюцца па-лацінску — *Herba Hyperici*. Захоўваюць іх у шчыльнай упакоўцы ў сухім і цёмным месцы.

Ужо даўно было заўважана, што калі ў сонечныя дні белыя авечкі пачастуюцца травой святаянніка, у іх распухаюць лімфатычныя залозы і робяцца раны, якія цяжка гояцца. Высветлілася, што прычынай гэтага захворвання з'яўляецца асобы пігмент, які павышае ўражлівасць непігментаваных месцаў скуры жывёлы на сонечныя прамені.

Але святаяннік прыносіць не толькі цярпенні. Ужо ў старажытнасці з чорных залозак на лістках расліны ўмелі здабываць цудоўныя фарбы, што надавалі тканінам чырвоныя і фіялетавыя колеры. З травы святаянніка рабілі горкія настойкі для ўзбуджэння апетыту, а народныя лекары называлі яго травой ад дзевяноста дзевяці хвароб і выкарыстоўвалі ў якасці супрацьзапальнага і антысептычнага сродка пры катарах кішэчніка, хваробах печані і іншых захворваннях.

Сёння святаяннік лічыцца раслінай, якая мае ўсебаковыя лячэбныя якасці. Прэпараты з яго прымяняюць пры захворваннях жоўцевых шляхоў, пры застойванні жоўці ў жоўцевым пузыры і каменнях у ім, пры аслабленні функцыянавання печані.

Рэкамендуюцца гэтыя прэпараты таксама пры запальных станах слізістай абалонкі страўніка і кішак, пры зменшаным выдзяленні страўнікавага соку, уздуццях і болях жывата.

Прэпараты з зёлак святаянніка паспяхова выкарыстоўваюцца таксама пры зменшаным выдзяленні мачы, а таксама пры каменнях у нырках.

Прымаюць іх пры парушэнні кровазвароту, а таксама пры рэўматычных хваробах.

З увагі на супакойваючае ўздзеянне прэпараты святаянніка прымяняюцца пры непакоі, парушэннях нервовай раўнавагі, пры начным мачэнні дзяцей, пры нервовым узбуджэнні.

Кампрэсы з зёлак святаянніка прыкладваюцца на нарывы, адмаражэнні, апёкі I і II ступені, раны, якія цяжка гояцца. Апрача таго, гэтымі зёлкамі палошчуць рот і горла пры запаленні дзёсен і горла.

Экстракты святаянніка выкарыстоўваюць таксама пры лячэнні бяляцтва, г. зн. знікання пігменту скуры. Прэпараты ўжываюць унутрана і адначасова змазваюць хворыя месцы сокам са святаянніка ці алеем, настоеным на кветках гэтай расліны.

Зёлкі святаянніка ўваходзяць у склад многіх прэпаратаў, якія выпускае „Herbapol". Са свежых зёлак робіцца інтракт „*Intractum Hyperici*" і сок „*Succus Hyperici*", а сушаныя зёлкі ўваходзяць у склад грануляваных лекаў „*Gastrogran*" і „*Normogran*", а таксама зёлкавых мяшанак „*Cholagoga*" *I* і *III*. Экстракты з зёлак уваходзяць у склад прэпарата „*Herbogastrin*", страўнікавых кропляў „*Guttae stomachicae*" і аэразолу „*Hemostin*".

**Напар са святаянніка**

2 лыжкі зёлак заліць у тэрмасе 2 1/2 шклянкай гарачай вады, зачыніць і пачакаць на 1 гадзіну. Піць па 1/2—2/3 шклянкі 2—3 разы ў дзень за гадзіну да яды; напар стымулюе выдзяленне страўнікавага соку, жоўцегонны і мачагонны. Гэтым жа напарам можна паласкаць рот і горла, прыкладаць кампрэсы з ім на апёкі, здзертую ці свярбячую скуру.

**Алей са святаяннікам**

25 г свежых кветак святаянніка спырснуць 1 лыжачкай спірту ці гарэлкі і заліць 100 г раслiннага алею. На працягу некалькіх дзён падаграваць па 2-3 гадзіны на пары, часта мяшаючы, пакуль вадкасць не стане чырвонай, а кветкі крохкімі. Тады працадзіць праз палатно і выціснуць. Разліць у малыя бутэлечкі і трымаць у халадзільніку. Прымяняць знешне на скуру пры апёках, ранах і пры бяляцтве (пры ім змазваць толькі святлейшыя плямы на скуры).

**Зёлкі для жанчын у перыяд менапаўзы**

Змяшаць па 50 г зёлак святаянніка і лісця ружы, а таксама па 25 г кветак рамонку і чорнай мальвы. Заліць 1 лыжку зёлак шклянкай кіпетню і напарваць пад покрыўкай 15 мінут. Настойваць яшчэ 10 мінут, тады працадзіць. Выпіць усё вечарам у выпадку так званых „удараў" у жанчын у перыяд менапаўзы.

**Гатовыя прэпараты:**

„*Cholagoga*" *I* і *III* („**Herbapol**"): 2—3 лыжкі зёлак заліць 2-3 шклянкамі гарачай вады, падаграваць паволі да кіпення і варыць пад покрыўкай 2—3 мінуты. Настойваць яшчэ 10 мінут, тады працадзіць у тэрмас. Піць 1/2—2/3 шклянкі 2—4 разы ў дзень перад ядой пры хваробах печані і недастатковым выдзяленні жоўці. Зёлкі н-р I прымяняць пры паносах, н-р III — пры запорах.

„*Herbogastrin*" („**Herbapol**"): рэкамендуецца прымаць 1 лыжачку вадкасці ў 1/4 шклянкі вады 2—3 разы ў дзень перад ядою як сродак на апетыт, або пасля яды як сродак ветрагонны і рэгулюючы перыстальтыку кішак.

„*Intractum Hyperici*" („**Herbapol**"): стабілізаваны алкагольны экстракт са свежых зёлак, які ахоплівае поўны аб'ём карыснага ўздзеяння святаянніка на арганізм чалавека. Дарослым рэкамендуецца прымаць ад 30 кропляў да 1/2 лыжачкі ў кілішку вады 2—3 разы ў дзень. Праз 2 тыдні спыніць лячэнне на 10 дзён. У часе лячэння старацца быць як найменш на сонцы.

„*Heperforat*" (**Германія**): кроплі, дражэ, уколы. Дзейнічае супакойваюча. Прымяняецца ў станах псіхічнай дэпрэсіі (асабліва ў жанчын у перыяд клімакса), пры нервовым узбуджэнні, непакоі, занадта вялікай уражлівасці на змены надвор'я, пры бяссонніцы і начным мачэнні.

Увага! Калі занадта доўга прымяняць прэпараты са святаянніка, пацыент можа стаць занадта ўражлівым на ўльтрафіялетавыя прамені, у выніку чаго нават нядоўгае знаходжанне на сонцы прывядзе да апёкаў скуры, пухіроў і агульнага аслаблення.

**ЭСКУЛАП**

# ПРЫВІТАЛІСЯ

— А гісторыя мая такая: ажаніўся я з вялікага кахання. Усё было добра, пакуль не нарадзіла жонка праз год дачку. Ой, якія гэтыя малыя дзеці паскудныя! Спаць не хочуць, усю ноч роўма равуць. Толькі пасля працы галаву на падушку прыхіліш, а яна за сваё: „Уа-а-а! Уа-а-а!" Кармі яе, люляй... Што за жыццё?

Жонка сядзела над ёю амаль усю ноч, а потым удзень была амаль непрытомная. А я да малой амаль і не падыходзіў — нашто мне было дарэмна рукі пэцкаць, пялюшкі тыя мыць? Дзень мой быў такі: прачынаўся рана, рабіў канапкі і гарбату, еў ды ехаў на працу. Пасля працы ішоў дахаты есці. Потым — газеты, часопісы, футбол па тэлевізару, або проста ішоў на шпацыр. У мой абавязак уваходзіла адно прынесці грошы. Усё астатняе рабіла жонка: пакупкі ў крамах ці на рынку, хатняя гаспадарка, ды яшчэ кавалак зямлі за горадам — пасадзіць што ды даглядаць, таксама яна. Праз тую працу яна зусім занядбала: ані моднай фрызуры, ані прыстойнай вопраткі. А аднойчы я ўбачыў, што ў яе бракуе двух пярэдніх зубоў. Кажа, маўляў, сапсаваліся, давялося вырваць, а паставіць новыя няма калі.

Карацей, не жонка, а нейкая брыдкая пачвара.

Аднаго разу я не ўтрымаўся і сказаў, што думаю з гэтае нагоды.

Яна выслухала ўважліва, а потым у адказ: „Ты сам ва ўсім вінаваты. У маіх сяброваў мужы заўсёды дапамагаюць, адно ты лайдачыш".

„А яна мае рацыю, —падумаў я. — Трэба будзе хоць раз нешта ўхаце зрабіць".

Неяк выпала ў мяне вольная гадзіна, застаўся я дома, прыбраў крыху, а жонка пайшла кудысь. Выйшаў я на хвілінку, гляджу — з дамскай цырульні, а яна акурат насупраць нашага дома — нейкая прыгожая паненка выходзіць, і якраз да мяне крочыць. „Хто гэта можа быць? — думаю. А яна мне: „Прывітанне! Як справы?" Я разгубіўся. Вырашыў не адказваць. Стаю моўчкі, а яна пачынае: колькі і за што грошай аддала, колькі цырульніку заплаціла. Тады я не вытрымаў: „Прабачце, — кажу, — нашто вы мне гэта гаворыце? Хіба мне ўсё гэта цікава чуць? Ідзіце, куды ішлі — у мяне свая бяда".

А паненка ў адказ: „Ты што, з глузду з'ехаў? Не пазнаў?"

Тады глянуў я на яе, і ажно ў галаве закружылася. Гэта ж мая жонка! Пераросіў я яе і з тае пары заўсёды дапамагаю, што б яна ні прасіла.

**АЎРОРА**

# НА АДНЫХ НАДЗЕЛАХ

Жыхары вёскі пры „камуне" жылі на адных надзелах. Калі хто хацеў будавацца, дык кожны матэрыял начальнік гміны „прызначаў" для селяніна, а гэта была вялікая яго ласка, каму „дасць". Я сам будаваўся, і добра ведаю гэтую „палітыку". Чатыры гады дом я будаваў, а былы начальнік гміны патрошку мне гэтыя матэрыялы „надзяляў", каб я часта „лечыў нервы" ў „яго" гміне.

Штосьці нашыя сяляне так плачуць па „камуне", дык чаму ж пры Беруце ў калгасы не пхаліся? На плятах выпісвалі імёны кожнага калгасніка, памятаеце? У нас у Дубічах было тых калгаснікаў 7 сем'яў, і то грызліся паміж сабою.

Памятаю, як пры Беруце дзеткі беглі ў школу, бліскаючы голымі пяткамі і попкамі. Вось, якое райскае жыццё! Што ж, краіна пасля вайны, адбудоўвалася...

Трэба было неяк дзяліць тое, што мелі. Начальнік гміны ў сваіх руках трымаў і надзелы на трактары, і іншыя сельскагаспадарчыя машыны, але гэта трапляла да яго „сяброў". Я сам змог купіць сабе трактар, а сыну аўтамашыну толькі леташняй восенню. Нябось, не я н ы роварамі ездзілі...

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА VIII**

Заключэнне вайсковага саюза Беларусі з Расіяй напэўна дасць магчымасць Расіі ўводзіць і ўтрымліваць свае войскі на тэрыторыі Беларусі, тады, калі яна дойдзе да вываду, што ў Беларусі парушаны яе інтарэсы. А вядома, чым большая будзе ступень незалежнасці Беларусі, тым, паводле Расіі, болей будуць парушаны яе інтарэсы. І гэта можа быць прычынай увядзення яе войск у вельмі шырокіх маштабах. Разважанні такога тыпу могуць здацца смешнымі для многіх скептыкаў, якія катэгарычна і не зусім, зрэшты, беспадстаўна лічаць, што такога тыпу разважанні маюць чыста тэарэтычны характар. Паводле іх, на працягу многіх дзесяткаў гадоў так званая беларуская армія будзе ў істоце рускай арміяй і ў сувязі з гэтым Расія не будзе ўводзіць у Беларусь новай рускай арміі, маючы там старую рускую армію. Калі здарыцца нейкая экстранная сітуацыя, дык можа Расія схоча мець у Беларусі, скажам, не сённяшнюю дзвесцепяцідзесяцітысячную армію, а аж паўмільённую або і большую. Асабіста дрыжу на думку аб такой магчымасці. Мой жах не вынікае з такіх ці іншых мілітарных пагрозаў ды камплікацый, характару якіх не магу сабе ўявіць, а толькі з таго, што трэба будзе пракарміць такую аграмадную армію, вядома, беларускім хлебам.

Усё гэта — пакуль што імправізацыі аб тым, што можа, але не мусіць здарыцца. Аднак можам паразмаўляць і аб чымсьці, што ўзмоцніць вайсковы саюз Беларусі з Расіяй, а што ўжо сёння з'яўляецца рэальнай з'явай.

Як вядома, сёння дыслакуецца ў Германіі амаль паўмільённая руская армія. Армія гэта мае знаходзіцца ў Германіі да канца 1994 года. Ужо сёння немцы робяць рознага роду націскі з мэтай прыспешыць вывад рускай арміі. Зусім магчыма, што тэмп прыспяшэння значна паскорыцца ў залежнасці ад таго, колькі марак дакінуць немцы да тых чатырнаццаці мільярдаў марак, якія вытаргаваў ад Германіі Гарбачоў. Вось за тыя грошы і будуецца на тэрыторыі былога Савецкага Саюза шмат вайсковых гарадкоў, у якія пераселяцца рускія вайсковыя падраздзяленні з Германіі. Уся бяда ў тым, што многія з гэтых гарадкоў будуюцца якраз у Беларусі. Зразумела, што вайсковы саюз Беларусі з Расіяй праўдападобна ўзаконіць пераезд рускай арміі з Германіі і ў тыя вайсковыя гарадкі, якія ўжо ёсць і якія актуальна будуюцца на тэрыторыі Беларусі.

Палітычны рахунак у гэтай справе вельмі просты: чым болей чужой арміі на тэрыторыі якой-небудзь краіны, тым меншай будзе ступень незалежнасці гэтага народа. І таму, глядзячы на беларускую сітуацыю ў такім аспекце, вельмі баюся за лёс таго, што называецца беларускім адраджэннем. З другога боку нясмела, а, быць можа, наіўна, усё думаю (можа лепш сказаць, мару аб тым), што Беларусь не ўвойдзе ў вайсковы саюз з Расіяй, што на працягу найбліжэйшых гадоў збудуе нацыянальную армію, што ўмоцніць сваю дзяржаўную незалежнасць і станецца паўнавартасным партнёрам для ўсіх сваіх суседзяў.

Думаю, аднак, каб магло так стацца, трэба было б ад зараз з вялікай дэтэрмінацыяй і паслядоўнасцю ўзяцца за ачышчэнне беларускай арміі ад чужаземнага элементу і стварыць сапраўднае нацыянальнае войска, узнікненне якога радыкальна прыспяшыла б беларусізацыю ўсіх сфераў беларускай дзяржавы. А зрабіць гэта не цяжка. Справа ў тым, што ў арміі ўсе змены і рэформы праводзяцца не па прынцыпу дабравольнасці, а толькі па загаду і прымусу. Не ведаю, у якой ступені гэтая простая ісціна пранікае ў галовы сённяшніх кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

## СКУКУЙДА

Удзельнікі гульні выбіраюць двух бацек; адзін з іх адыходзіць убок, а другі садзіць ігракоў у рад, бярэ трэсачку або вугаль, ходзіць уздоўж рада і працягвае кожнаму іграку руку з трэсачкай. Так абыходзіць ён некалькі разоў і пры гэтым нябачна дае трэсачку аднаму з удзельнікаў. Потым гэты бацька становіцца збоку, а падыходзіць другі і пачынае ўгадваць, у каго схавана трэсачка. Хлопчыкі ж, што сядзяць, стараюцца шчыльней сціснуць кулакі, каб падмануць чужога бацьку. Калі бацька пройдзе некалькі разоў уздоўж рада, ён адкрывае ў аднаго з хлопчыкаў руку, спадзеючыся знайсці ў ім трэсачку. Калі знойдзе, то бярэ сабе палавіну дзяцей, і гульня працягваецца з астатнімі, калі ж не знойдзе, то першы бацька зноў хавае трэсачку. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль трэсачка будзе знойдзена ў кожнага з удзельнікаў. Тады дзеці становяцца ў рад за сваім бацькам і моцна трымаюцца адзін за аднаго. Чужы бацька пачынае іх лавіць, стараецца адарваць апошняга хлопчыка. Родны бацька пытаецца ў чужога:

- За што ты іх ловіш?
- Яны ў мяне масла пакралі!
- А чаму ты яго не накрыў?
- Я накрыў жалезнай ступай, а яны ступу адвярнулі і масла пакралі.
- А чаму ты не зрабіў агароджы?

Чужы бацька падкідае ўверх палачку і гаворыць:

- Я зрабіў агароджу во якую, ды яны пералезлі і масла пакралі.

І пасля гэтага кідаецца на дзяцей і крычыць:

- Грук, грук, есці хачу!

Дзеці хаваюцца за свайго бацьку, моцна трымаюцца адзін за аднаго і крычаць у адказ:

- З'еш жабу ў балоце!

Гульня заканчваецца тады, калі ўсе дзеці будуць адарваны ад свайго бацькі.

## АДГАДАНКА

*Дапамажы шчанюку дабрацца да косткі.*





*Марскія хвалі з пенай цалуюць замка сцены...* **Фота В. Шведа**

*УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ*

## ПРА АНДРЭЙКУ ДОБРЫКА І ЧОРЦІКА ДУРОНІКА

Пачалі збірацца ў школу. Андрэйка паклаў у ранец кніжкі, сшыткі, алоўкі, пенал, гумку, лязо, азбуку.

- Што яшчэ ўзяць? - сказаў і задумаўся.
- А во! - чорцік Дуронік прыцягнуў з шафы пластмасавую жоўтую трубачку, а ў жменьцы - пяць гарошын.
- Гэта для чаго? - здзівіўся Андрэйка.
- Страляць гарошынамі ў гарохавыя галовы.
- Не, Дуронік, дурэць на ўроках нельга. Пакладзі, дзе ўзяў.
- Слухаюся, - вінавата сказаў чорцік.

Праз некалькі хвілін Андрэйка Добрык быў ужо ў школе, якая размяшчалася ў замку Алфавіт. Падняўся па лесвіцы на другі паверх, павярнуў улева, у доўгі калідор. Знайшоў 1 "А" клас, тузануў за ручку.

На момант Андрэйка разгубіўся. У пакоі - поўна дзяцей. Сабраліся ці не з усёй Букварні.

- Новенькі! - крыкнула галасістая дзяўчынка.
- Гэта ж Андрэйка Добрык! - кінулася да яго Алеся. - Вы яшчэ даведаецеся, які ён новенькі.

У клас зайшоў настаўнік Вася Вясёлкін. Усе гурмой кінуліся да яго.

- Дзядзя настаўнік, а ў нас новенькі - Андрэйка Добрык.
- Я ведаю, - спакойна адказаў настаўнік. - Сядайце за парты.

Вася Вясёлкін даводзіў вучням простыя правілы:

- У школе можна многаму навучыцца, калі вельмі захацець. Але спачатку давайце вывучым літары.

Ружовы ад радасці чорцік Дуронік пачаў танцаваць на Андрэйкавай галаве. Андрэйка засаромеўся, палез рукой у валасы, каб злавіць чорціка. Толькі ўскудлачыў чуб, бо Дуронік спрытна ўскочыў ужо ў ранец. Ведаў: гаспадар не дарue распусты.

- Дык вось, дзеці, на сённяшні ўрок я запрасіў восем літар, - аб'явіў Вася Вясёлкін і расчыніў дзверы.

Клас ахнуў. Перад ім стаялі жывыя літары. Усе пазналі найперш дзве літары А. Яны трымаліся за рукі. Юра пазнаў Н, Святланка - Д, Рэнік - Р, Каця - К.

А дзве літары падказаў Андрэйка:

- Да нас прыйшлі галосная Э і Й - гэта І кароткае...

Вася Вясёлкін паўтарыў:

- Дык вось якія літары завіталі да нас: Н, Д, Р, К, Э, Й, дзве А. Цяпер зірніце, якія яны могуць складваць словы.

Настаўнік паставіў літары ў радок, папрасіў, каб яны не рухаліся.

Добрык пазіраў на літары і не верыў сваім вачам: літары выпісалі яго імя - АНДРЭЙКА.

- Андрэйка! - выгукнуў чорцік Дуронік.
- Правільна!.. А цяпер падумайце, - папрасіў Вася Вясёлкін, - якія яшчэ словы можна скласці з гэтых літар?

У класе стала ціха-ціха. Андрэйка прагнаў ад сябе чорціка Дуроніка, пасур'ёзнеў. Ніколі не думаў, што з яго імя можна скласці яшчэ нейкія словы.

Алеся першая падняла руку:

- У мяне з АНДРЭЙКІ атрымаўся РАК.
- Як гэта? - пачырванеў Добрык.
- А во як: Р у цябе ёсць, А і К таксама. Вось і - РАК.
- Малайчына, Алеся, - пахваліў Вася Вясёлкін.

Андрэйка зморшчыў лоб, задумаўся, а пасля падскочыў ледзь не да столі, закрычаў:

- РАКА!
- Правільна, - пахваліў і яго Вася Вясёлкін. - А яшчэ?
- Эй! - клікаў да сябе чорцік.

А Добрыку падалося, што Дуронік падказвае яму.

- Эй! - выгукнуў Андрэйка.

☞ *Працяг на стар. 10*

*ВІКТАР ШВЕД*

## ВЕРШЫ З ПАДАРОЖЖА

### НАД МОРАМ

Летам з мамай і татам
Была над морам Ната.
Малая просіць: - Мама,
Збудуй прыгожы замак
З прыморскага пясочку.
Смяюцца Наты вочкі:
Марскія хвалі з пенай
Цалуюць замка сцены.

### ЭКСКУРСІЯ

Аўтобусам мы з гідам
Адправіліся ў Ніду,
І праз заліў, вядома,
Пераплылі паромам.
Усе мы неўзабаве
Былі па пераправе.
Ната кажа ва ўздыме:
- Аўтобусам плылі мы.

### БЫВАЙ, ПАЛАНГА!

Наталька ўражанняў багата,
Цела карычневы загар
З Палангі павязе дахаты,
Як лёсу дабрадзейны дар.

Акордам развітальным танга
"Габія" ўзрушыла да слёз.
Бывай, гасцінная Паланга,
Мо сутыкне ізноў нас лёс?...

*Літва, Паланга, 8 - 21 VII 1993 г.*

*ХВЕДАР ГУРЫНОВІЧ*

### ДЗЕ ЛЕПШ?

Летам луг звініць і грае,
Зззяе ў промнях страказа,
Як алмазы ў сорак граняў,
На траве блішчыць раса.

Тут павук развесіў кросны,
І за сінім матыльком
Нацянькі ў рамонках росных
Я ганяюся з сачком.

Ну, а ў верасні я рад
Зазірнуць у спелы сад.

Пажаўцела лісце рана
На галінках маладых,
Пахнуць мёдам і туманам
Сакавітыя плады.

Іх задзіра-вецер рушыць
У каляную траву,
Тут і яблыкаў і груш я
Поўны кошык свой нарву.

Да ракі імчу зімой,
А са мною - сябар мой.
Тут вясёлая забава
Кліча ўладна дзень пры дні.
Ну й круты ж ён, бераг правы, -
Лёгкіх санак не спыніць.

Як звініць рачулкі ўлонне,
Як блішчаць сляды канькоў!
А яшчэ ў палонцы ловім
Мы пярэстых акунькоў.

А вясной як зацвітае
Дружна луг - займае дух.
Як ён сэрца працінае!
Што вясною лепш бывае
За блiскучы гэты луг?

А вясна ў квяцістым садзе?! -
Рой пакінуў свой лятоk,
Карагоды вішні ладзяць.
Шчасце ў кожнага ў пaглядзе:
- Сад цвіце!
- Цвіце, браток!

А рачулка як смяецца,
Як сваволяць ручайкі!
Як спяваюць!
І, здаецца,
Не бывае лепей месца,
Чым вясною ля ракі...

# ДОБРАЕ СЛОВА

У трамвай праз пярэднія дзверы ўваходзіў старэнькі дзядок. Хлопчык убачыў, як цяжка падымацца старому чалавеку з нізкай прыступкі. Ён схапіўся з лаўкі і падаў руку.

Дзядуля падзякаваў.

- Сядайце, калі ласка, на маё месца, - паказаў хлопчык на лаўку.

- Сядзі-сядзі. Мне недалёка ехаць.

Хлопчык быў настойлівы:

- Ну я вас прашу, дзядуля, сядайце.

Прыйшлося паслухацца. Дзядуля сеў, прыхіліў хлопчыка да сябе і спытаў:

- Як жа цябе зваць?

- Юра.

- Харошае імя, - пахваліў дзядуля.

- Я ў той дзень нарадзіўся, як Юрый Гагарын паляцеў у космас.

- Вунь што. Тады яно двойчы харошае... У якім жа ты класе, хлапчына, вучышся? - зірнуў дзядуля на Юраў партфель.

- У трэцім.

- Малайчына. Старайся, старайся. Я ў твае гады і аднаго класа не скончыў. Толькі і ўмею распісацца. Ды і то навучыўся, калі мне было дваццаць гадоў.

- Дык вы і казак не чыталі? - Юра дастаў кніжку з партфеля.

- Не. Казкі расказвала мне маці.

- Ой, дзядуля, колькі цікавага вы не ведаеце! - пашкадаваў хлопчык. - Каб былі блізка ад нас, я і вам чытаў бы... Тату і маме я кожны вечар чытаю.

Дзядуля ўздыхнуў: у яго свае такія ўнукі ёсць, могуць пачытаць, ды не вельмі сябруюць яны з кнігай. Ён паглядзеў у акно і сказаў:

- Ну, мне скора выходзіць. Ты куды - у школу ці са школы едзеш?

- У школу, на другую змену. Мы пераехалі ў новы раён, а трэці клас я канчаю там, дзе жылі раней.

- Настаўнік ці настаўніца вучыць цябе?

- Настаўніца.

- Сядай на маё месца, - устаў дзядуля, - і перадай настаўніцы дзякуй. Скажы - ад дзядулі Сцяпана Мікалаевіча.

- Вы ведаеце нашу пані Олю?! - здзівіўся Юра і сеў на лаўку.

- Не. Але ты перадай ад мяне дзякуй, прашу цябе! - ужо з прыступкі гукнуў дзядуля.

"А за што перадаць дзякуй незнаёмай настаўніцы? - паціснуў плячамі Юра. - Прывітанне і тое знаёмым толькі перадаюць, а тут - дзякуй..."

Настаўніца ўвайшла ў клас, і Юра перадаў ёй дзядулеву падзяку. Пані Оля распытала, дзе і калі гэта было, трошкі захвалявалася і падзякавала вучню за прынесенае добрае слова.

А за што ўсё ж дзякаваў дзядуля настаўніцы? Можа, ты ведаеш?



*Котка Пуся, малая сяброўка Мартынкі і Кандрата, прыехала на Беласточчыну аж з Менска.* **Фота М. Лукшы**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- Як будзе назоўнік "чалавек" у множным ліку? - пытае настаўнік.

- Людзі, - адказвае вучань.

- А як у множным ліку "дзіця"?

- Блізняты, - гучыць у адказ.

* * *

Бабуля чытае кніжку. Унук пытаецца ў яе:

- Бабуля, навошта ты надзела акуляры?

- Бо яны павялічваюць літары, дзіця.

- Тады надзень іх, калі ласка, калі будзеш адразаць для мяне кавалак торта.

* * *

Настаўнік скардзіцца калегу:

- Ну і клас мне трапіў! Тлумачу ім тэарэму - не разумеюць. Другі раз тлумачу. Не разумеюць. Трэці раз тлумачу. Сам усё зразумеў, а яны ўсё адно не разумеюць!..

Запісаў **ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

*МІРА ЛУКША*

### КАЛЫХАНКА ДАМАВІЧКА

Ходзіць сон, бродзіць сон  
Ў камарынай срэбнай песні.  
Добры сон, мяккі сон  
Лапкай вочы дзетак песціць.

Нам прысніцца ўсё на свеце --  
Быль ці казка -- як у фільме.  
З гор далёкіх нясе вецер  
Зорны мак на лёгкім крыллі.

Ходзіць сон, бродзіць сон...

Спі, Алінка, склаўшы ладкі  
На падушку, пад галоўку.  
Павядзе цябе украдкам  
Бай у казачку-вандроўку.

Ўсе твае сябры-істоты,  
Ўсе раслінкі, дом, дарогі  
Ў сон ступаюць, ў сон дрымотны,  
Ў свет чароўны без трывогі.

Ходзіць сон, бродзіць сон  
Ў камарынай срэбнай песні.  
Добры сон, мяккі сон  
Лапкай вочы дзетак песціць...

### ЧАРВЯЧОК

Невялікі чарвячок  
Пасяліўся ў сліву.  
Многа спіць ды смокча сок  
У доміку чарвівым.  
Скажа хто на чарвяка:  
"Вось які паскуднік!  
Знішчыў плод, садаўніка  
Працы плён марудная!  
Хто ж прасіў яго ў садок,  
Хто дазволіў -- хаму?! --  
Лезці, грызці, высмоктваць сок  
З мякаці духмянай?!"  
Не адкажа чарвячок  
На грозьбы, папрокі.  
Лёс такі ў яго, сынок,  
Ды дзянёк кароткі...

### ЦВЫРКУН

Цвыркун-скакун,  
Танцор і пявун  
Пад канопляй сеў  
Ды травінку з'еў,  
Напіўся расы,  
Страсянуў вусы,  
У лапку ўзяў смычок,  
Віяланчэль ў пясок  
Кончыкам уставіў,  
Фрак сабе паправіў  
І зайграў цвыркун,  
Зялёны баюн  
Песню гаманкую,  
Летня-лугавую...  
Слухай -- сам пачуеш.

### САРАКАНОЖКА

Раз адна сараканожка  
Прастудзіла свае ножкі:  
Ходзяць ножкі па балоце,  
А на кожнай ножцы -- боцік,  
З бота -- пальчык вызірае:  
Кожны боцік пазяхае!..  
Колькі майстру грошай даць?  
Цвічкі ў боты паўбіваць,  
Дзір заклеіць сорак пяць,  
Сорак "жабак" ўбіць у пяткі,  
На наскі -- моцныя латкі...  
На кожную ножку --  
Доўгую панчошку.  
Цяпер цёпла кожнай ножцы, --  
Весела сараканожцы!

*СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ*

# КУДЫ БЯГУЦЬ РЭКІ

Даўным-даўно на нашай планеце не было ні рэк, ні азёр, ні мораў. Уся вада збіралася ў адным месцы, якое празвалі акіянам. Навокал яго ўзвышаліся крутыя панурыя горы і вулканы.

Акіян толькі нарадзіўся і хоць быў вялікі, але, як усе дзеці, цікаўны і дапытлівы. Яму вельмі хацелася ведаць, што там за высокімі гарамі, за вулканамі? А горы, як строгія нянькі, не адпускалі яго ад сябе. Акіян і прасіўся, і лашчыўся да іх цёплай пяшчотнай хваляй, але яны былі няўмольныя.

Тады акіян гневаўся і са злосцю шпурляў у горы прыбярэжнае каменне.

Аднойчы ён убачыў, як на бераг наляцеў магутны вецер, і падымаючы пясок і каменне, кідаў далёка за горы.

- Вецер, - звярнуўся да яго акіян, - перакінь і мяне цераз горы. Вельмі ж хочацца паглядзець, што яны ад мяне хаваюць.

- Вялікі ты, - адказаў вецер. - Не здужаю. Але паклічу на дапамогу сваіх братоў. Папрабуем разам.

Паклікаў вецер братоў. Колькі іх было - ніхто не ведае.

Сабраліся вятры разам і дружна пачалі падымаць ваду. Але як ні стараліся, не змаглі ўсю падняць.

Тады вятры ўзялі вады, колькі маглі, і разляцеліся.

Доўга вандравалі яны па свеце, пакуль не выбіліся з сіл.

А замарыўшыся, сталі вызваляцца ад цяжару, і вада заструменіла на зямлю. Вясёлыя раўчукі, апынуўшыся на волі, дурэлі і забаўляліся, а зліўшыся разам, утваралі паўнаводныя рэкі. Як і раўчукі, яны беглі ў розныя бакі. Але вось дзіўна: куды б ні беглі, усё роўна вярталіся да акіяна, каб расказаць яму, што бачылі і чулі.

А бачылі яны шмат чаго на свеце. І не адно ўжо тысячагоддзе сябруюць з акіянам, які за гэты час пастарэў, супакоіўся, і яго нездарма завуць Ціхім акіянам.

# ПРА АНДРЭЙКУ ДОБРЫКА І ЧОРЦІКА ДУРОНІКА

Працяг са стар. 9

- Правільна, і ЭЙ ёсць у тваім імені.

- ЭЙ, РАК У РАКУ! - склала Алеся цэлы сказ.

Андрэйка хуценька прапанаваў:

- А цяпер давайце з АЛЕСІ што-небудзь прыдумаем.

- Можна і з АЛЕСІ, - пагадзіўся Вася Вясёлкін. - Але гэта вы зробіце ўжо дома.

Чорціку Дуроніку вельмі спадабалася гульня, і ён пачаў нашэптваць словы са свайго прозвішча:

- ДУРНІ, КІНО, РОД, КОН, УРОК...

Следам за ім паўтараў Андрэйка. Ён не думаў раней, што на ўроку можа быць так цікава і весела.

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 23 ЖНІЎНЯ

8.00 Пад купалам Сусвету. 8.10 Праграма перадач. 8.15 „Генеральная рэпетыцыя”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 10.25 Конны спорт. Спаборніцтвы на кубак беларускай асацыяцыі па конегадоўлі. II этап. Калгас „Камунар” Навагрудскага раёна. 11.25 „Не расставайцеся з дзяцінствам”. „Грані колеру”. Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 12.30 Навіны. 12.40 „Канец былых часоў”. Мастацкі фільм (Чэха-Славакія). 14.15 „Пекар і гультай”. Мультфільм. 14.25 Тэлевізійны дакументальны фільм „Азоўскае мора”. 15.15 „Мы — хлопцы жывучыя”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 16.30. Навіны. 16.40 „Воранаўскія кадрылі”. Тэлевізійны дакументальны фільм. 17.00 „Спасціжэнне ісціны”. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Духоўная спадчына. Гісторык, этнограф Я. Шыраеў. 18.50 „Дзедка за рэпку...” — парады агароднікам. 19.20 „Хохлаўка”. Кінанарыс. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Даруй нам, першае каханне”. Мастацкі фільм. 22.10 НІКа.

### АЎТОРАК, 24 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Даруй нам, першае каханне”. Мастацкі фільм. 8.30 „Усмешкі Нячыпараўкі”. Фільм-канцэрт. 9.40 „Дарога ў пекла”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 12.30 Навіны. 12.40 „Лёгкія крокі”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 14.05 „Рэчка-невялічка”, „Праз Дар'яльскую цясніну”. Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 14.45 „Раскажыце казку, доктар”. Мультфільм. 1—3-я серыі. 15.25 Праграма перадач. 15.30 Сізбар-топ-10. 16.30 Навіны. 16.40 Для школьнікаў. „Ці любіце вы тэатр?” 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 Эканамічная хваля. Па слядах нашых перадач. Прамая лінія. 19.10 На крылах песні. Сустрэча калектываў мастацкай самадзейнасці з Беларусі і Польшчы. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок”. „Залатая дзесятка”. Тэлеконкурс маладых палітыкаў. 22.30 НІК-а.

### СЕРАДА, 25 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Каб горан не згас”, „Камень, дрэва, метал”. Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 8.95 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 8.35 „Царская п'еса”. Мастацкі фільм. (Балгарыя). 9.45 „Экспазіцыя”, „Два словы ў пісьме”. Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 11.00 „Залаты рынг”. Турнір „Суперчэмпіён”. 12.30 Навіны. 12.40 „Падсудны”. Мастацкі фільм. 14.10 „Танцуй, Іспанія”. Музычны фільм. 15.25 Праграма перадач. 15.30 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 16.30 Навіны. 16.40 „Акаіро”. Мультфільм. 17.00 „Ахоўваецца дзяржавай”. Тэлевізійны дакументальны фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 На музычных паралелях. С. Рахманінаў. Рапсодыя на тэму Паганіні. Выконвае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. 18.45 Гаспадар. Хлеб Прынямоння. Перадача з Гродна. 19.15 ТА „Рэха” — рэйтынг. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 „Ля гасцінца”. Музычная забаўляльная праграма з удзелам папулярных беларускіх спевакоў. 22.50 НІКа.

### ЧАЦВЕР, 26 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Спявае Муслім Магамаеў”. Фільм-канцэрт. 8.10 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 8.40 „Востраў скарбаў”. Мультфільм. 9.25 „Я песні аддаў усе спаўна”. Музычны фільм. 10.35 „Пырскі шампанскага”. Мастацкі фільм. 12.10 ТА „Рэха” — рэйтынг. 12.30 Навіны. 12.40 „Капітан Фракас”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.00 „Не страціў я святло былое... А. Блок. Тэлевізійны фільм. 15.55 „Мёртвы зыб”. Навукова-папулярны фільм. 16.25 Праграма перадач. 16.30 Навіны. 16.40 „Чорная курыца”. Мультфільм. 17.00 Тэлевізійны дакументальны фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. 18.45 Роднае слова. Тэлечасопіс. 19.15 „У краіне Фіёрдаў”. Вакальны цыкл Э. Грыга. Выконвае саліст Белдзяржфілармоніі А. Шчарбакоў. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок”. „Залатая дзесятка”. Тэлеконкурс маладых палітыкаў. 22.25 НІКа.

### ПЯТНІЦА, 27 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Смех пад сонцам”, „Заслона”. Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 8.30 „Дзяжурная аптэка”. Шматсерыйны мастацкі фільм. 9.00 „Напярэдадні”. Тэлевізійны мастацкі фільм 1-я і 2-я серыі. 11.30 Паміж намі, жанчынамі... Кіно ў нашым жыцці. 12.30 Навіны. 12.40 „Плюмбум, альбо небяспечная гульня”. Мастацкі фільм. 14.15 Студыя „Летапіс” прадстаўляе. „Хто выправіць памылку Дэметры”, „Час сеяць... дыялогі”. Навукова-папулярныя фільмы. 15.50 „Глорыя”. Мастацкі фільм. 16.25 Праграма перадач. 16.30 Навіны. 16.40 „Фестываль у Выбаргу”. Міжнародны фестываль дзіцячых фальклорных калектываў. Перадача 1-я. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Тэлевізійны дом кіно. Да свята кінематографа. 19.40 Калыханка. 19.59 Рэклама. 20.00 Панарама. 21.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Стоп-кадр. Крымінальная хроніка. 21.05 „Аповесць непагаслага месяца”. Мастацкі фільм. 22.35 НІКа.

### СУБОТА, 28 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Аповесць непагаслага месяца”. Мастацкі фільм. 9.00 Паказвае Брэст. Літаратурна-мастацкая праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Урокі здароўя. 10.45 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок”. Канцэрт удзельнікаў фестывалю „Студэнцкая вясна-93”. 11.55 Паэтычная гасцёўня. С. Грахоўскі. 12.25 „Мачаха”. Шырокаэкранны мастацкі фільм. 13.50 „Марусіна карусель”, „Ах, прынцэса!” Мультфільмы. 14.10 Хрысціянская праграма. 14.40 Пік. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў. 15.35 „Пастушыныя гульні”. Інсцэніроўка паводле рамана Лонга „Дафніс і Хлоя”. 16.05 Навапалацк запрашае гасцей. Канцэрт майстроў мастацтваў. 17.25 Дабрадзея. Праграма для людзей сталага ўзросту. 17.55 Трэці тайм. Футбольны агляд. 18.40 Сізбар-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Нараджэнне зоркі”. Мастацкі фільм (ЗША). 22.50 НІКа.

### НЯДЗЕЛЯ, 29 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік хрысціянскай місіі Рык Рэнер. 7.55 „Наша стагоддзе”. Тэлевізійны дакументальны фільм. 8.45 „Безыменная зорка”. Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 10.55 Прэм'ера кнігі. Зборнік паэзіі Р. Баравіковай „Люстэрка для самотнай”. 11.35 На музычных паралелях. Кампазітар Андрэа Тэрыноні (Італія). 12.05 „Мы такія розныя”. Музычна-забаўляльная праграма з удзелам калектываў мастацкай самадзейнасці Стадарожскага раёна. 12.55 Спартыўны стыль. 13.30 С. Мрожак. „Шчаслівае здарэнне”. Спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. 14.45 Таямніца. Праграма для сям'і. 15.15 „Сатырычныя замалёўкі”. Мультфільм. 15.25 „Трыццаць тры”. Мастацкі фільм. 16.40 Існасць. Духоўна-рэлігійная праграма. 17.35 Вецер вандраванняў. Тэлевізійнае падарожжа. 18.20 Запрашаем на вячоркі. Дажынкі ў вёсцы Магдаліна Кобрынскага раёна. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 Рэклама. 20.05 „Камедыянты”. Мастацкі фільм. (Англія). 22.34 Рэклама. 22.50 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.



### ФАРШЫРАВАНЫ ПЕРАЦ

**Прадукты:**

*12 струкоў зялёнага ці чырвонага салодкага перцу, 25 дэкаў молатага мяса (свініны), 4 лыжкі сцертай на тарцы сухой булкі, 1 яйка, 15 дэкаў цыбулі, 2 лыжкі тлушчу, паўшклянкі смятаны, 3 лыжкі таматнай пасты, соль, цукар, пахучы перац, прыправа „чылі”, 4 лыжкі пасечаных ліасткоў раслін для прыпраў.*

Струкі перцу памыць, выразаць сярэдзіну, выняць насенне, спаласнуць, асушыць. Абабраць цыбулю, нарэзаць яе дробна і крыху падсмажыць на тлушчы. Цыбулю дадаць да мяса, перамяшаць з яйкам і сцертай булкай, дадаць соль, пахучы перац, прыправу „чылі”. Фаршам напоўніць струкі, палажыць іх у каструльку, дадаць тлушч, даліць гарачай вады. Тушыць пад покрыўкай. Калі перац будзе мяккі, дадаць таматную пасту і смятану. Да соусу дадаць цукру, солі, перцу, „чылі”, закіпяціць. Перац пералажыць на талерку, паліць соусам, пасыпаць зелянінай.

Падаваць з варанай бульбай.

**ГАСПАДЫНЯ**

### З ТУТЭЙШАГА ЖЫЦЦЯ

— Давай пойдзем на танцы, — запрашае хлопец маладую дзяўчыну. — Адпачнем крыху, пазабаўляемся...

— Добра, — адказвае тая. — Толькі давядзецца ўзяць з сабою майго мужа і дваіх дзяцей...

* * *

— Ты чаго гэта смяешся? — пытаецца Юзік у суседа.

— Ярак павёў свайго сабаку на ўкол да ветэрынара.

— А што тут смешнага?

— Ён так хвалюецца за яго, што падаецца, быццам гэта не ён сабаку, а сабака яго павёў. Бач, жывёла наперадзе бяжыць, а гаспадар яго ледзьве на ланцугу трымае...

* * *

Пані Агата два дні плача.

— Што здарылася? — пытаюцца ў яе сяброўкі па працы.

— Ды вось долары задарма аддала.

— Ашукаў хто, ці як?

— Ды не. Муж прыслаў з Амерыкі лялькy, а ў мяне на хлеб грошай не ставала, я і прадала яе. А ўчора атрымала ліст — у сярэдзіне, аказваецца, грошы былі...

**АЎРОРА**




**Дарагі Астроне!**

Прысніўся мне такі сон. Прыехалі мы (я і дзве мае сяброўкі) у нейкую вёску каля Гарадка. Заходжу да свае сяброўкі, каб пераначаваць. Там вельмі брудна, ёсць нейкі ложак развалены, няма бягучай вады, доўга шукаю нужніка. Прыязджае нейкі чалавек і кажа, што памёр адзін з маіх братоў. Я збіраюся ехаць дахаты, а гаспадыня кажа, што маю за начлег заплаціць 200 тысяч. Я вельмі абурана, таму што гэтая дзяўчына часта гасцюе ў мяне дома, але яна катэгарычна хоча заплаты (не памятаю, ці я ёй дала грошы).

Іду па нейкім полі, парослым сухою травою, сустракаю маю маму. Яна пацвярджае, што памёр малодшы брат, але яна зусім спакойная. Заходзім да нашае хаты. На покуце ляжыць дошка, але мой брат жывы, толькі моцна апухлы, сіні, кажа: „Гэта так мяне ў моргу пакалолі”. А на ложку ляжыць наша баба-нябожчыца, жывая (вельмі добра выглядае), яна тут спала. Я з ёю цалуюся і абдымаюся. Потым я прачнулася, а потым зноў пачаўся сон, як я моцна перажываю (не снілася нейкая гісторыя, толькі я перажывала пасля смерці брата).

**Яўгенія**

Астроне! У ноч перад вельмі важным для мяне гешэфтам прысніліся мне цыганы. А да таго яшчэ сніліся нейкія вялізныя масты, праз якія я не магла прайсці, нейкія глыбы сцен, цяжкія, каменныя. Муж мой, калі я яму раніцай расказала свой сон, сказаў, што ты няраз пісаў, быццам цыганы прадвяшчаюць ашуканства. І, уяві сабе, Астронку, сапраўды ашукалі. Я нічога не зарабіла, а толькі страціла, бо падсунулі мне стары тавар. Ты меў рацыю.

**Галіна**

Яўгенія! Твой сон сведчыць, што будзеш мець нейкія цяжкасці ў жыцці. Могуць быць гэта нейкія плёткі (было брудна), сум (у полі была сухая трава), можа быць нейкая небяспека (ляжаў спухлы брат, ты цалавалася з бабай-нябожчыцай).

Што датычыць твайго, Галіна, сну, дык твой муж добра яго разгадаў. Каб яшчэ ўзяў пад увагу тыя непраходныя масты і цяжкія глыбы сцен, якія прадвяшчаюць цяжкасці, таксама б не памыліўся.

**АСТРОН**

### ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. сталіца Лесота, 3. востры пачатак шахматнай гульні, 5. закрытая прастора, 7. напрыклад Нарва, 9. пашкоджанне цела, 10. аўтар „Віроў”, 11. нямецкі канцлер, 12. Міхал, былы шахматны чэмпіён свету, 14. металічны грош, 16. каркас, 17. праца.

**Вертыкальна:** 1. атэстат сталасці, 2. верхняя канечнасць, 3. напрыклад Кіліманджара, 4. Мар'я, выдатная беларуская лёгкаатлетка 60-х гадоў, 6. думка, 8. куе жалеза, 9. куст сямейства вярбовых. 11. Мікалай, але ласкава, 13. палёгка, 14. указвае шлях караблям, 15. вага упакоўкі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 27 н-ра.**

**Гарызантальна:** эпас, кухар, тварог, КНДР, салам, уменне, біялогія, пацук, пагалоўе, гаспадар, Осака, Воранава, карона, амбон, друк, золата, алень, раса.

**Вертыкальна:** булава, марабу, Пенелопа, струг, балея, „Пожня”, мікрафон, Міхалова, пуга, Ціса, кола, Вена, Аранхуэс, Самалі, кросны, „Гапон”, вораг, радар.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Лукаш Пацэвіч з Беластока.**





**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Наканаванне** — тое, чым тыран апраўдвае злачынства, а дурань — няўдачу.

**Нарачоная** — жанчына, у якой усе светлыя надзеі ўжо ў мінулым.

**Насоўка** — невялікі кавалак шаўку ці батысту правільнай простакутнай формы, які прыкладаюць да твару. Вельмі прыдатны падчас пахавання сябра ці блізкага чалавека, каб схаваць адсутнасць слёз. Насоўка з'явілася параўнальна нядаўна. Нашыя продкі карысталіся рукавом.

**Неамерыканскі** — нязносны, агідны.

**Невук** — чалавек, які не ведае таго, што ведаеце вы і ведае тое, што абсалютна недасягальна для вашага розуму.

**Ненармальны** — які не адпавядае стандарту. Калі вы незалежны ў думках і паводзінах, вы — ненармальны. А гэта азначае, што вас не любяць. Таму вам трэба імкнуцца да ідэала Сярэдняй Асобы. Так вы дасягнеце спакою, пэўнай смерці і надзеі трапіць проста ў пекла.

**Непітушчы** — слабавольны чалавек, які саступае спакусе абмежаваць сябе ў прыемных рэчах.

**Непрыгожасць** — падарунак лёсу для некаторых жанчын.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

# НІЎКА

ФРАКЦЫЯ «СЕНА»

ФРАКЦЫЯ «САЛОМА»

*Мал. Л. Разладава*

## ЗАДАЧНІК

**Задача:** З 8.00 да 12.00 спадар Х рашыў два красворды. З 13.00 да 16.00 яшчэ два. Колькі красвордаў разгадае спадар Х з 16.00 да 21.00?

**ЯСЕНЬ**

Адказ: Ніводнага. Рабочы дзень спадара Х заканчваецца ў 16.00.

## СЕНТЭНЦЫІ

Перакіньце мост між берагамі —
і сустрэнемся на паўдарозе.

*

Чорнае перамагло,
кожны ў кожным бачыць зло.

**БАРЫС РУСКО**

*МІКОЛА МІНЧАНКА*

### КВЕТКІ

Як любіш дзяўчыну,
Завеш па маліны
І лічыш адзінай.
А вырасцій дзетак —
Глядзіш на суседак,
Бо тыя суседкі —
Ну нібыта кветкі.

## *З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ*

Waliły.1993.08.02 h.

Art. 31 pkt 1,2 oraz Art. 32 pkt 1,5,6 - ustawa Prawo prasowe / 1984 r. Dz.U.Nr 5,poz.24 /.

TYGODNIK BIAŁORUSKI „NIWA" w Białymstoku WPŁYNĘŁO dn. 2.08. 1993 r. L.dz. 325/93

Sprostowanie

Darahi Redaktar Achramienko

" ...Idzi na chuj ! " *

Lawon Tarasewicz
- Rajca Hminy Haradok,
- Starszynia Kamisji Kultury i Aświety ,
- Arhanizatar "Basowiszcza",
- Czlen Hałounaj Rady Biełaruskaha Demakratycznaha Ab'jednania

* - słowy skazanyja anhlaedaukowanym sawieckim salistam z rok-hurta "Szwejo " jaki haścinna wystupaje u Hajnaucy, a prahuczali jany na sceni "Basowiszcza " u Baryku 16 lipienia 1993 h. a 20 hadzinie i 42 chwilin.

### *і каментар:*

DARAHI LONIK! На маю прыватную думку, твая схільнасць да цытавання эмацыянальна насычаных агульнаславянскіх лексемаў можа быць вытлумачана так: падчас апошняй мастацкай працы (гл. плакат да "Басовішча") ты настолькі сур'ёзна "ўвайшоў у вобраз", што дагэтуль не можаш з яго выйсці, ці, як той казаў - "co kogo boli, o tym mówić woli". Маю яшчэ адно тлумачэнне: магчыма, падчас сваёй апошняй вандроўкі ў Менск ты, як старшыня камісіі культуры і асветы, вельмі грунтоўна вывучаў надпісы ў грамадскіх прыбіральнях беларускай сталіцы (бо большасць словаў з трох літар крэмзаецца на сценах менавіта тых устаноў). Што зробіш, паэты і мастакі - як дзеці: часам якая-небудзь дэталь настолькі ўражвае іх, што засланяе сабою цэлы свет...

З найлепшымі зычэннямі -

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА, празаік, эсэіст, журналіст і піяніст.*

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА*

## ЯК ПАЦУК СЯРЖУК УРАТАВАЎ СВАЙГО СЯБРА, ВЕДЗЬМАКА ЯНУКА

*(беларуская казка)*

У старадаўнія часы ў адным лесе, сярод непралазных балот жыў ды быў адзін Вядзьмак. Звалі таго Ведзьмака Януком. Страшную моц меў гэты чараўнік: варта было яму толькі дакрануцца чароўнай палачкай да хворага месца якойсьці жывой істоты, як рана ўмомант загойвалася; варта было яму толькі тройчы свіснуць у срэбны свісточак, як прыбягалі да яго зверы дзікія, прыпаўзалі гады балотныя ды зляталіся птушкі нябесныя і чакалі загадаў. Але птушкі нябесныя, гады балотныя ды зверы дзікія хаця і слухаліся чараўніка, але баяліся і не любілі яго. І з усіх жывых істот сябраваў чараўнік толькі з адным хатнім Пацуком, які жыў у яго пад печкай. Звалі таго Пацука Сержуком.

Быў, аднак, у ведзьмака Янука адзін люты вораг - балотны Злыдух, які меў уладу не меншую, а мо і большую, таму што ўмеў пераварочвацца ў што заўгодна - хоць у птушку, хоць у камень.

Мыў аднойчы Вядзьмак Янук у сваёй хаце падлогу - і тут з вядра з вадою вылез кракадзіл і адкусіў у чараўніка нагу (а насапраўды быў то не кракадзіл, а перавернуты Злыдух). Дастаў Вядзьмак сваю чароўную палачку, прыклаў яе да раны, і ўмомант вырасла ў яго новая нага, ды яшчэ лепшая за старую.

Але Злыдух на гэтым не супакоіўся: дачакаўся ён аднойчы, калі Вядзьмак пайшоў у прыбіральню, зачыніў яго звонку, а сам перакінуўся дражджамі і кінуўся ў яміну - і пачаў гной у той яміне хутка-хутка расці. Так і захлынуўся б Вядзьмак, каб не было пры ім срэбнага свісточка. Падзьмуў ён у яго тройчы, і адразу ж прыбеглі зверы дзікія, прыпаўзлі гады балотныя ды зляцеліся птушкі нябесныя - адчынілі дзверы, вынусцілі гаспадара, а гной параскідалі крыламі, хвастамі ды капытамі.

Але злы пераверацень вырашыў любым коштам даканаць Ведзьмака: падпільнаваў ён аднойчы, як пайшоў Янук у лазню без чароўнай палачкі і срэбнага свісточка. Перакінуўся Злыдух змяёй, вылез з водаправоднага крана і балюча ўкусіў чараўніка за самую дупу. А пры зміяных укусах найперш трэба адсасаць з ранкі атруту. Спрабуе Янук і так, і гэтак да ранкі дацягнуцца - нічога ў яго не атрымліваецца. А атрута тая ўсё глыбей і глыбей у цела ўваходзіць... Завярцеўся чараўнік ад болю, як уюн на гарачай патэльні, ды як залямантуе! Пачуў той лямант ягоны адданы сябра, Пацук Сяржук, кінуўся ў лазню да чараўніка, прыклаўся да яго дупы і высмактаў атруту...

x x x

Дык вось: часам і вялікага чараўніка можа ўратаваць толькі адданае мужчынскае сяброўства!

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Ну, была я ў спартыўным лагеры. Трэнер выціскаў з нас усе сокі. Але гэтак было ўдзень. Калі надыходзіў канец трэніровак, мы ведалі: ноч была для нас. Недалёка ад лагера была прыемная кавярня. Там мы збіраліся вечарамі, пілі каву, часамі віно, а найбольш танцавалі. Пасля ўсе разыходзіліся па доміках. Часамі дзяўчаты з дзяўчатамі, а хлопцы з хлопцамі, а часамі і мяшаліся.

Было гэта мо на пяты дзень нашага прыезду ў лагер. Прыглянуўся мне адзін хлопец. Быў прыгожы, а да таго атлетычна збудаваны: шырокія плечы, вузенькія бёдры, а да таго высокі і статны.

Пайшлі мы ў нашу кавярню. Седзімо. П'ем каву, узялі бутэльку віна. Настрой цудоўны. Усюды нашыя. Весела. За нашым столікам сабралася поўна людзей. Хлопец глядзіць на мяне заканымі вачыма, час ад часу цмокае мяне то па валасах, то ў шчаку, а то ў губы. Мне прыемна.

Бавіўся маёй рукою. Прытуляўся да яе. Раптам схапіў яе і... бах. Кінуў яе сабе... на калені. Я адчула нешта цвёрдае, як бервяно, што было... між каленямі. Я не магла стрымаць задаволенай усмешкі. Хуліганіш, кажу... Мы сядзелі яшчэ доўга ў кавярні, пакуль нас не сталі выганяць. Калі мы ўсталі, хлопец усім целам прытуліўся да мяне і пацалаваў у губы. Па маім целе прайшлі дрыжыкі, а галоўным чынам ад прытулення, бо ізноў нешта вялікае і цвёрдае дало аб сабе знаць.

Цэлай грамадою вярталіся мы назад. Я была ў сёмым небе. Хлопец мяне кахае! А я - яго. Сяброўка, з якой я жыла ў адным доміку, шматзначна міргнуўшы мне, аддалілася з нейкім хлопцам. Хата была свабодная! Я ішла ў напрамку нашага жылля, а хлопец туліў мяне і падцалоўваў усю дарогу.

Перад домікам мы затрымаліся. Я была ўпэўнена, што хлопец пойдзе са мною дахаты, але ён чамусьці на ганачку спыніўся, уздыхнуў і пачаў развітвацца. Я глянула на яго недаўмена і пачала запрашаць яго ўвайсці ў хату. Хлопец тлумачыўся, што трэнер будзе незадаволены яго познім вяртаннем, што ён правярае заўсёды, ці ўсе спяць на сваіх месцах. Выкручваўся.

Я ўсё ж настаяла, каб зайшоў да нас "на гарбатку". І кепска зрабіла, бо пасля шкадавала.

Тую гарбатку я яму вядома, зрабіла. Пасля мы распрануліся. Ужо ляжалі ў пасцелі і ён запытаў: "Ты не пакрыўдзішся, калі будзе так, як будзе?" Я аслупянела. Чаму? Што ён гаворыць? Але іскрынка непакою і расчаравання прапшла мяне...

Штосьці такое я перажывала ўпершыню. Як гэта так, думалася мне. Няўжо можа быць нам кепска? Нават калі б ён меў нейкія праблемы, няўжо не змагу я выкрасаць з яго хвіліну заангажавання? Нішто ж не прадвяшчала катастрофы...

Праўда! Я дала з сябе ўсё. А ён? Што ён! Як толькі дакрануўся да мяне і ўбачыў, што я ад яго чакаю большага, усё ў яго неяк апала, ён як бы страціў зацікаўленне мною. Стаў нейкі нервовы, раздражнены. А я рабіла, што магла. Каб было лепш, абняла яго нагамі за шыю. Як не фыркне ён! Што гэта за пазіцыя? Я цябе не разумею. Каб было чым, дык зразумеў бы, падумалася мне. Але ўголас сказала я яму вельмі міленька: "А як ты хочаш?" Хацеў толькі "па-божаму", ды і то ні чарта з гэтага не выходзіла.

У пэўным моманце са злосцю адвярнуўся ад мяне. Я спакойна падсунулася да яго і ўтулілася ў яго ззаду. Было мне таксама прыемна. Як не ўскочыць ён, як не гукне на мяне. Сеў. Лёг. І... заснуў побач са мною. Разбудзіла нас сяброўка, якую яе хлопец прывёў са свайго доміка.

Мы развіталіся надта холадна. Больш мне не хацелася сустракацца з гэтым хлопцам. Скажы, Сэрцайка, ці ты верыш, што пасля такога цудоўнага ўступу можа быць так кепска ў пасцелі?

**Ленка**

Ленка! Веру. Аднак жа пры ўмове, што трапіш на імпатэнта такога, як гэты. Можа ўсё ж ты занадта паспяшалася, бо калі б так лёгка не зрэзыгнавала і крыху папрацавала над ім... Можа яшчэ былі б з яго людзі...

**СЭРЦАЙКА**